ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год. XXVI, № 236 New York, December — Сьнежань 1976 Vol. XXVI, № 236

## ДЖЫМІ КАРТЭР—НОВЫ ПРЭЗЫДЭНТ ЗША

20 студзеня 1977 году перабярэ прэзыдэнцкую ўладу выбраны 2 лістапада сёлета новы прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Амэрыкі Джымі Картэр, былы губэрнатар паўдзённага штату Джорджыя, і віцэ-прэзыдэнт Волтэр Мондэйл, сэнатар із самага паўночнага штату Мінэсота.

Сярод Амэрыканцаў беларускага паходжаньня ёсьць сябры й прыхільнікі абедзьвюх найвялікшых партыяў Амэрыкі: Дэмакратычнай і Рэспубліканскай. Газэта „Беларус" стараецца служыць усім Амэрыканцам беларускае нацыянальнасьці незалежна ад іхнае партыйнае прыналежнасьці ці партыйных сымпатыяў. Дый наагул у пытаньні прэзыдэнцкіх выбараў газэта стараецца кіравацца не партыйнымі сымпатыямі ці антыпатыямі, а справамі, што стаяць панад партыямі — дабром нашае новае бацькаўшчыны Амэрыкі й нашым беларускім нацыянальным інтарэсам. Хоць мы й сталіся грамадзянамі Амэрыкі й шчыра рупімся пра ейнае дабро, але адначасна моцна адчуваем сябе неадлучнай часткай усяго беларускага народу, сынамі й дочкамі нашай старой бацькаўшчыны Беларусі. Гэткая палітычная пазыцыя нашае газэты ўжо традыцыйная: яна кіравалася ёю падчас мінулых прэзыдэнцкіх выбараў, гэткай была яна й у часе апошніх выбараў ды гэткай, трэба думаць, застанецца яна й у будучыні.

Кіруючыся беларускім нацыянальным інтарэсам, вялікая бальшыня амэрыканскіх Беларусаў у прэзыдэнцкіх выбарах 1968 і асабліва 1972 году падтрымлівала кандыдата Рэспубліканскай партыі Рычарда Ніксана. І гэта таму, што якраз і Рычард Ніксан асабіста, і Рэспубліканская партыя ў гэным часе ўпяршыню ў гісторыі Амэрыкі пачалі афіцыйна вызнаваць і практычна падтрымліваць справу захаваньня й далейшага культываваньня этнічнай культурнай спадчыны народаў, зь якіх паходзяць і да якіх адчуваюць сваю нацыянальную або, як часьцей кажацца, этнічную прыналежнасьць амэрыканскія грамадзяне. Гэта было вялікім дабрадзействам і для Амэрыканцаў беларускага паходжаньня. Апрача гэтага, былы прэзыдэнт Рычард Ніксан і Рэспубліканская партыя тэарэтычна й практычна разглядалі нас, як апрычоную этнічную беларускую групу сярод амэрыканскага народу.

У сёлетніх прэзыдэнцкіх выбарах пазыцыя амэрыканскіх Беларусаў моцна зьмянілася. Прычынамі гэтае зьмены была палітыка дэтанту Рэспубліканскага прэзыдэнта Джэралда Форда, занятая ім на канфэрэнцыі ў Гэльсінках. Палітыка дэтанту, гарантуючы Савецкаму Саюзу ненарушальнасьць ягонае тэрыторыі й тэрыторыі Сярэдняе або Цэнтральнае Эўропы, што на моцы Ялтанскае ўмовы была перададзеная пад савецкую дамінацыю, тым самым палітычна замацоўвала далейшае паняволеньне народаў гэных тэрыторыяў. Асабліва-ж няпрыхільную рэакцыю сярод Амэрыканцаў усходня- й сярэдняэўрапейскага паходжаньня выклікаў наступны акт гэтае палітыкі — асьветчаньне прэзыдэнта Джэралда Форда ў перадвыбарнай тэлевізійнай дыскусіі 6 кастрычніка сёлета, быццам у краёх Сярэдняе Эўропы няма савецкае дамінацыі, быццам гэныя краі й народы не зьяўляюцца паняволенымі, а цешацца поўнай сувэрэннасьцяй і дзяржаўнай незалежнасьцяй.

Праўда, у сувязі зь неспадзяванай, відаць, вайстрынёй рэакцыі на гэткае асьветчаньне, прэзыдэнт Дж. Форд тыдзень пазьней адклікаў гэтае няўдалае асьветчаньне, заявіўшы, што гэта была ягоная памылка. Аднак гэтае адкліканьне, зробленае перад 12-ма запрошанымі прадстаўнікамі народаў Усходняе Эўропы, а перададзенае па тэлевізіі ня прэзыдэнтам асабіста, а карэспандэнтамі газэтаў, мела эфэкт невялікі. Калі-ж ходзіць пра Амэрыканцаў беларускага паходжаньня, дык, на колькі магчыма было меркаваць, навет многія сябры й наважаныя сымпатыкі Рэспубліканскай партыі й асабіста прэзыдэнта Форда, галасуючы ў часе выбараў за кандыдатаў на розныя іншыя дзяржаўна-ўрадавыя становішчы, перад кандыдатамі на прэзыдэнта або пакідалі пустое месца, або галасавалі за Джымі Картэра.

Выбарная плятформа абодвых кандыдатаў на прэзыдэнта ў пытаньні замежнае палітыкі бадайшто нічым прынцыповым ня розьнілася. І гэта зразумела. Каторы з кандыдатаў быў-бы выбраны за прэзыдэнта, ён у ваднолькавай ступені быў-бы зьвязаны агульнымі прынцыпамі палітыкі ЗША ў дачыненьні да Савецкага Саюзу й наагул камуністычнага сьвету. Прынцыпы гэтыя, вызнаваныя й тарнаваныя таксама й дзяржавамі Заходняе Эўропы, сьціраваныя на тое, каб забясьпечыць добрыя дачыненьні й супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам, хай сабе навет далёкайдучымі аднабаковымі ўступкамі апошняму й вялікай эканамічнай дапамогай. Гэткай сваёй палітыкай Амэрыка, а за ёю й увесь дэмакратычны Захад, не здаючы сабе справы із сьмяротнае загрозы ім самым, робяць усё магчымае, каб ратаваць Савецкі Саюз, як турму народаў нашага часу, ад ейнага нямінучага развалу пад ударам штораз мацнейшых нацыянальна-вызвольных імкненьняў паняволеных у ёй народаў.

У вабліччы гэткай палітычнай каньюнктуры паняволеныя камунізмам народы, навучаныя горкім дасьветчаньнем, глядзяць на падзеі цьвяроза й рэальна. Пры гэткай каньюнктуры яны не чакаюць ад Амэрыкі й наагул Вольнага Сьвету вызваленьня іхных бацькаўшчынаў. Яны рзьлічваюць вылучна на свае собскія сілы, цьвёрда верачы ў нязьменны закон гісторыі, што ідэя нацыянальнае свабоды, за якую яны зматгаюцца, зьява вечная й непрамінальная, а ўсякія палітычныя каньюнктуры заўсёды зьявы часовыя й прамінальныя.

У вабставінах і сяньняшняе няспрыяльнае каньюнктуры ў сьвеце, беларуская палітычная эміграцыя ў Задзіночаных Штатах павінна й пры прэзыдэнту Дэмакратычнае партыі выкарыстоўваць усе магчымасьці для нацыянальна-вызвольнае дзейнасьці, як выкарыстоўвала іх пры прэзыдэнту партыі Рэспубліканскай. Нававыбраны прэзыдэнт Джымі Картэр яшчэ выразна ня выказаў сваіх дачыненьняў да паняволеных народаў, хоць і ён асабіста, і Дэмакратычная партыя зрабілі некаторыя абнадзейваючыя палітычныя ходы ў гэтым пытаньні.

У папярэднім нумары „Беларуса" быў надрукаваны тэкст Рэзалюцыі заснаванае ў часе самага гарту выбарнае кампаніі Дэмакратычнай Рады Нацыянальнасьцяў пры Нацыянальным (г. зн. цэнтральным) Камітэце Дэмакратычнае Партыі. У Рэзалюцыі гэнай праводзіцца думка, што Дэмакратычная партыя Амэрыкі павінна актыўна імкнуцца да вызваленьня народаў Усходняе й Цэнтральнае Эўропы пры дапамозе ўсіх належных і легальных сродкаў. Хочацца верыць, што заява гэтая ня была адно агітацыйна-прапагандавым ходам у працэсе перадвыбарнага змаганьня, а застанецца актуальнай назаўсёды й будзе здабываць штораз больш прыхільнікаў у радох Дэмакратычнае партыі.

Хочацца таксама верыць, што з днём 20 студзеня 1977 году адыйдзе зь вельмі важнага становішча Дзяржаўнага Сакратара вельмі непапулярны сярод Амэрыканцаў з Усходняе й Цэнтральнае Эўропы Гэнры Кісынджэр і ягоная правая рука ў Дзяржаўным Дэпартамэньце Гэльмут Зонэнфэльд зь ягонай несамавітай гэнасыднай дактрынай у дачыненьні да паняволеных савецкай Расеяй народаў. Мае сваю важную вымову й заява новага прэзыдэнта Джымі Картэра ў часе ягонае прэсавае канфэрэнцыі 15 лістапада сёлета. Джымі Картэр заявіў, што пытаньне людзкіх правоў датычыць да ўсіх краёў сьвету, у тым ліку й Савецкага Саюзу, і затым за ягонае прэзыдэнтуры ад стану пашанаваньня людзкіх правоў у дадзеным краі ЗША будуць узалежніваць пытаньне замежнае дапамогі для іх.

Гэтак як пры прэзыдэнтах Рэспубліканскае партыі былі ды, трэба думаць, будуць і далей актыўнымі беларускія рэспубліканскія клюбы ў паасобных штатах ЗША, гэтак цяпер пры прэзыдэнтуры Джымі Картэра павінны разгарнуць сваю дзейнасьць і зарганізавацца ў свае клюбы беларускія сябры й прыхільнікі партыі Дэмакратычнай. Гэтага ім ад шчырага сэрца жадаем!

**Ст. Станкевіч**

*УСІМ НАШЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ, ДАБРАДЗЕЯМ, ЧЫТАЧОМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ, А ТАКСАМА ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ*

*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ*

**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1977 ГОДУ**

*АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЕ*

*Рэдакцыйная Калегія „БЕЛАРУСА"*

## 14-Я СЭСІЯ РАДЫ БНР

У Нью Ёрку, 27-га лістапада адбылася 14-я Сэсія Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. На Сэсіі былі абмеркаваныя бягучыя палітычныя й арганізацыйныя пытаньні й прынятыя адпаведныя пастановы. Сэсія абрала за Старшыню Рады БНР на наступны шасьцігадовы тэрмін др. Вінцэнта Жука-Грышкевіча. Была прынятая таксама пастанова выдаць да 60-х угодкаў Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году зборнік дакумэнтаў да гісторыі беларускага незалежніцкага руху 1917-1918 гадоў, як першы том шматтомавага выданьня дакумэнтаў і матар'ялаў да гісторыі беларускага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

## "ПЕСЬНЯРЫ" Ў АМЭРЫЦЫ

У аўторак 30-га лістапада, самалётам Аэрафлёту, беларускія „Песьняры" прыбылі на міжнародны аэрапорт імя Далэса каля Вашынгтону ў штаце Вірджынія. Самалёт прыляцеў спозьнена, пляйнаваная прэсканфэрэнцыя не адбылася. Аўтобусам „Песьняры" адразу-ж накіраваліся да месца свайго першага канцэрту ў Гарысанбургу, штат Вірджынія.

„Песьняры" прыбылі ў Задзіночаныя Штаты зь ініцыятывы аднаго зь лепшых амэрыканскіх ансамбляў народнае песьні — „Нью Крысты Мінстрэлс". Прапанова амэрыканскага боку была, каб „Песьняры" прыехалі на чатыры тыдні, але савецкі бок абмежыў падарожжа да двух тыдняў.

Турнэ „Песьняроў" адбудзецца па паўдзённых штатах Амэрыкі: Вірджынія, Заходняя Вірджынія, Паўночная й Паўдзённая Караліна, Джорджыя, Тэнэсы (у гор. Нашвіл адбудзецца запіс на йстужку пары песьняў для выданьня малое кружэлкі), Місысыпі, й Люізіяна. Выступаць беларускі ансамбль будзе ў сельскіх мясцовасьцях гэтых штатаў — у школах і грамадзкіх цэнтрах — супольна з ансамблем „Нью Крысты Мінстрэлс" (які, як даведваемся, зьбіраецца наведаць з канцэртамі Савецкі Саюз — спадзяёмся, што „Песьняры" запросяць іх прыехацца з канцэртамі таксама па сельскіх мясцовасьцях Беларусі).

Прыезд „Песьняроў" у Амэрыку практычна арганізаваны ньюёркаўскай кампаніяй „Макмілян Пэрформінг Артс оф Нью Ёрк", а рэклямай „Песьняроў" у Амэрыцы займаецца іншая ньюёркаўская кампанія „Мортон Д. Ўакс энд Асошыэйтс". У вадным із сваіх прэсавых камунікатаў гэтае фірмы, разасланым па галоўных пэрыядычных выданьнях ЗША, між іншага, кажацца:

„Мулявін, кіраўнік ансамблю „Песьняры", выняткова здольны выканальнік на электрычнай гітары, які апрацаваў шэраг арыгінальныг песьняў на словы беларускіх паэтаў, паставіў сабе заданьне стварыць запраўды нацыянальны эстрадны ансамбль.

„Калярытная індывідуальнасьць ,Песьняроў' асабліва відавочная ў іхным падборы рэпэртуару, клясычнай вобразнасьці беларускага музычнага фальклёру, таксама як і ў творах беларускіх савецкіх кампазытараў, у іхным выкарыстаньні фальклёрнага матар'ялу для эстраднага ансамблю. Нельга ўявіць сабе мастацкае будучыні ,Песьняроў' вонках музычнасьці беларускае мовы, інтанацыі беларускае нацыянальнае песьні".

З адчуваньнем глыбокае крыўды даводзіцца адзначыць, што маршрут слаўных беларускіх „Песьняроў", невядома пакулышто зь якіх прычынаў, прапладзены гэтак, што яны не наведаюць із сваімі канцэртамі ніводнага пункту Амэрыкі, у якіх згрупаваная беларуская эміграцыя.

## ДРУГІ БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ
## ПЕРШАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ

У сераду 17-га лістапада сёлета ў Саўт Рывэры, у Беларускім Грамадзка-Рэлігійным Цэнтры, адбылося першае арганізацыйнае паседжаньне ў справе 2-га Беларускага Фэстывалю. У паседжаньні ўзяло ўдзел трыццаць асобаў, бальшыня зь якіх — арганізатары першага Беларускага Фэстывалю, які зь вялікай удачай прайшоў 12-га чырвеня сёлета.

Д-р Вітаўт Кіпель, старшыня першага арганізацыйнага камітэту, даў агляд вынікаў фэстывалю, вусных і пісьмовых водгукаў на яго — у вагульным вельмі дадатных. Былі абмеркаваныя пытаньні, зьвязаныя з правядзеньнем новага фэстывалю: палепшаньне арганізацыі, абнаўленьне праграмы, павялічаньне ліку ўдзельнікаў і гледачоў.

Пераважная бальшыня ўдзельнікаў паседжаньня — у дыскусіях брали ўдзел блізу ўсе — выказалася ў карысьць новага фэстывалю. З трох магчымых датаў, як найбольш адпаведная, была выбраная сыбота 21-га травеня 1977 году.

За старшыню новага арганізацыйнага камітэту быў ізноў аднадушна абраны др. В. Кіпель. Др. Кіпель зварачаецца да ўсіх чытачоў газэты ,Беларус" і наагул да ўсяго беларускага грамадзтва з просьбай прысылаць у фэстывальны камітэт свае думкі й прапановы, як найлепш правесьці другі Беларускі Фэстываль. Як і зь першым фэстывалем, аднэй з найгалаўнейшых праблемаў будзе сваечасовы распродаж білетаў, якія ўжо цяпер трэба замаўляць у фэстывальным камітэце.

**Я. З.**

*П А М Я Ц І Г Э Р О Я Ў*

*Між дрэваў, здраньцвелых, вецер скуголіў,*
*Шпурляў белы сьнег і шчарнелае лісьце.*
*А ім, атакованым каля Слуцку, ў полі,*
*Адно заставалася толькі выйсьце:*

*У зямлю штыхі, а рукі ўгору . . .*
*Ды не такое Случчакі закваскі:*
*Ім па калена бяздоннае мора,*
*Яны і ў сьмерці ня просяць ласкі.*

*Такіх рызыкантамі звалі ў вёсках,*
*Яны на кулачкі ішлі і ў вабхваткі . . .*

*А калі у вызвольнае клікнулі войска,*
*Пайшлі з кулакамі ў крывавыя схваткі.*

*„Гранёным" штыхам у руках азіятаў*
*Гэроі ня раз кулакі падстаўлялі . . .*
*І, гледзячы ў суме на родныя хаты,*
*Апошні патрон для сябе пакідалі.*

*А вецер між дрэваў, здраньцвелых, скуголіў,*
*Шпурляў белы сьнег і шчарнелае лісьце.*
*Яны, што ляглі каля Слуцку ў полі,*
*Крывёй асьвяцілі да Волі выйсьце.*

*Міхась Кавыль*

*1976 г.*

## ДАКЛАД УЛАДЫКІ СІПОВІЧА ПРА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

У нядзелю 10-га кастрычніка сёлета ў Беларускім Цэнтры на Фінчлей у Лёндане Ўладыка Часлаў Сіповіч зрабіў абшырны даклад на тэму „Беларуская эміграцыя ў Паўночнай Амэрыцы". Дакладчык характарызаваў розныя стадыі, праз якія прайшла эміграцыя, і пры дапамозе дакумэнтальных дадзеных паказаў, якія сьляды па сабе гэтыя стадыі пакінулі. Прысутныя зь вялікай цікавасьцяй аглядалі такія рэдкія дакумэнты, як Статут Таварыства Беларусаў і Ўкраінцаў зь перад Першай сусьветнай вайны, Кніга пратаколаў першай актыўнай і сьведамай беларускай арганізацыі ў Амэрыцы, заграніічныя пашпарты ўлучна з пашпартам БНР.

Дакладчык больш прысьвяціў часу апошняй стадыі беларускай эміграцыі, што прыбыла ў Амэрыку пасьля Другой сусьветнай вайны. Ён падрабязна расказаў пра Беларускі Фэстываль, што адбыўся зь вялікім посьпехам 12 чырвеня сёлета, а таксама пра 41-ы Міжнародны Экумэнічны Кангрэс, які адбыўся ў Філядэльфіі 1-8 жнівеня й у якім Беларусы прынялі актыўны ўдзел.

**А З.**

## І-я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

**адбудзецца 31 сьнежня 1976 — 3 студзеня 1977**

**у М Э Л Ь Б У Р Н Е**

**пад лёзунгам:**

**„ШАНУЙМА Й ВЫВУЧАЙМА МІНУЛАЕ, ПРАЦУЙМА ДЛЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ БУДУЧЫНІ!"**

**П Р А Г Р А М А:**

**Пятніца 31 сьнежня 1976:** Спатканьне, Сяброўскі вечар у Беларускім Доме, Спатканьне Новага 1977 Году.

**Сыбота 1 студзеня 1977:** Маёўка цэлы дзень.

**Нядзеля 2 студзеня 1977:** Багаслужба, Абед у Беларускім Доме, Рэфэраты, Супольны Канцэрт, Сяброўскі вечар.

**Панядзелак 3 студзеня 1977: Нарада прадстаўнікоў беларускіх** арганізацыяў у Аўстраліі, Справа наступнае Сустрэчы.

**Управа Беларускага Цэнтральнага Камітэту**

 



BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $10.00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# "БЕЛАРУСЬ, ТЫ ЗАНАДТА ДОБРАЯ..."

У час Калядаў зьбіраюцца Беларусы за стол куцьці, каб разам сустрэць вялікую радасьць — нараджэньне Збаўцы. Няпрысутным пакідаюць месцы за сталом, згадваюць іх добрым словам. Выгнаньнікі з дарагой бацькаўшчыны думкамі імкнуцца да цёплага сямейнага вогнішча, супольнага гнязда, адкуль мо падлёткамі, а мо й старэйшымі, выгнаныя ліхімі людзьмі й падзеямі, павандравалі ў чужы сьвет.

І ўстаюць мілыя вобразы блізкіх людзей, краявідаў, родных кутоў, у ледзь бачным міражы ўяўленьня зьзяе незабытнае, дарагое, цэннае. За роднай хатай, вёскай ці горадам паўстае й вялікі ў сваёй дабрасе дзеці веры ў Хрыста Беларускі Народ. Хто спазнаў гэтую, сяньня ў няволі зьняможаную краіну, не забыцца яму пра яе да апошняга дыханьня.

У наш век цынізму, зьдзеку над чалавекам, беспрыкладнага гвалту над народамі часьцей за ўсё, дзеля слабасьці свае, забываешся пра вялікую, простую, хрысьціянскую беларускую дабрату. Хто ведае — можа дзеля яе народ наш так доўга нясе пакуты, бо-ж гвалтаўнікі дабрату слабасьцяй уважаюць. Яна — простая й сардэчная хрысьціянская беларуская дабрата — існуе й сяньня. Спытайцеся адно сваіх ці чужых, што кагадзе наведалі нашу паняволеную бацькаўшчыну.

А тыя, што зь беларускага гнязда вылецелі, — няхай навет гадамі да чужога асяродзьдзя прытарнавацца намагаліся — ніколі не забудуцца вялікага, добрага й вытрывалага народу.

Гадоў дзевяць назад „Ніва", беларуская газэта ў Беластоку, разаслала анкету між польскіх пісьменьнікаў, роджаных у Беларусі, з пытаньнем: які ўплыў зрабіла Беларусь на іхную творчасьць і што яны заўдзячваюць Беларусі?

Сёлета ў нумары за 9-га травеня тая-ж „Ніва" надрукавала водклік Тадэвуша Канвіцкага, „выдатнага майстры сучаснай польскай прозы", што ў сваім творы „Каляндар і клепсыдра" лейтматывам узяў любоў да Беларусі. „Ніва" зьмяшчае адно месца з твору ў арыгінальнай польскай мове, а мы, цэнячы вартасьць выказваньняў Канвіцкага, падаём у перакладзе:

„Што заўдзячваю Беларусі?

Заўдзячваю ёй тое, што да сяньня ня ўмею добра пісаць папольску, што назаўсёды збакіравала мне вуха, што сваёй мэлёдыяй заглушыла тую пястоўскую, сандамерскую ці келецкую інтанацыю, якой вучуся й ніколі ўжо не навучуся. Заўдзячваю ёй тую настальгію, што хапае мяне за рэшткі валасоў сярод белага дня ў Варшаве, у Парыжы ці Мангэтэне. Заўдзячваю ёй той пранізьлівы неспакой, каторы мяне некуды гоніць, хоць стаю на месцы, некуды гоніць, куды баюся дабрацца, але наапошку дабрацца мушу.

Беларусь. Беларусь. Чаму называешся Беларусь, калі ня маеш у сабе белі, калі бельлю тваёй ёсьць рудыя васеньнія іржышчы, калі бельлю тваёю ёсьць сувоі шэрага палатна, вылажаныя на сонцы, калі бельлю тваёй ёсьць гарачы пот зьняможаных людзей. Мусіш называцца Добрарусь, мусіш называцца Добрай Зямлёй Добрых Людзей.

Мае вочы напоўненыя Беларусяй. Гляджу на Правэнсыю й бачу сугры з-пад Ашмяны. Пазіраю на Дунай і бачу Нёман, бачу заімглёны лагодным сумам другі бераг Нёману. Гляджу на аўтастраду ў Лёс Анджэлесе й бачу санную дарогу пад Гудагаем, чую трэск скарынак сьнегу, войстры пах конскага поту, уяўляю чырвонае вакенца самотнае хаты пад сугром спорнага сьнегу, адзінага й запраўднага багацьця тэй зямлі.

Як я ў дзяцінстве гаварыў? Ці „папростаму" ці „паместачковаму"? Ці больш слоў, казак, песьняў чуў беларускіх, ці польскіх? Колькі разоў і калі перакрочваў я тую неспасьцерагальную мяжу між беларускасьцяй і польскасьцяй?

Ня ўрэзалася ты ў людзкую памяць, Беларусь. Не адбірала ў іншых вольнасьці, не рабавала чужой зямлі, не забівала людзей з-за суседзкай мяжы. Мела ты для чужых пашану й гасьціннасьць, мела для рабаўнікоў апошнюю кароўку й апошнюю лусту жытняга хлеба із знакам крыжа, мела для нешчасьлівых крывавячае сэрца й магла беднае нявыпешчанае жыцьцё аддаць. Таму мала хто цябе памятае.

Мне таксама пад канец вайны ўратавалі жыцьцё ў беларускай хаце. Простыя гэта былі людзі, не малалыя й не старыя, звычайныя, шчарнелыя ад працы мужыкі, напэўна анальфабэты, калі йдзе пра пісьменнасьць, і прафэсары, калі йдзе пра веданьне псыхалёгіі й лёсаў чалавечых. Гэтыя простыя людзі ўратавалі мне, васемнаццацігадоваму, жыцьцё, на дабро й зло падаравалі ўсе тыя гады, каторыя з мазалём адпіхаю за сябе. Усьцерагі мяне можа толькі ад сьмерці, а мо ад шматгадовай жывёльнай вэгэтацыі, ад такога варыянту лёсу, пра які з жахам думаю ў бяссонныя ночы. І зь вялікім болем шкадую, што не магу апісаць таго кароткага выпадку, якога былі цудатворцамі.

Калі згадаю беларускае слова, калі дзьмухне вецер з паўночнага ўсходу, калі пабачу палатняную кашулю із сумнай вышыўкай, калі пачую крык болю бяз скаргі, заўсёды жывей заб'ецца мне сэрца, заўсёды аднекуль выскача лагодная журба заўсёды падплыве раптоўны холад неазначаных дакораў сумленьня, пачуцьцё супольнай віны й сораму.

Беларусь, Беларусь шэразялёная, з аграмадным небам над бялявай галавой, задобрая, залагодная, зашляхотная ты ёсьць на нашыя часы!"

**К. Акула**

# ПРАБЛЕМА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СПАДЧЫНЫ

У газэце „Літаратура і Мастацтва" за 24 верасьня сёлета зьявілася кароценькая, але вельмі важная зацемка ведамага маладога беларусаведа Арсеня Ліса пра першае паседжаньне нядаўна створанай Гістарычна-мэмарыяльнай Камісіі Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. На паседжаньні абмяркоўвалася пытаньне, якое датычыла да розных формаў ушанаваньня памяці памерлых у розныя часы беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў беларускае культуры. Ведамыя энтузіястыя культурнае спадчыны мінушчыны й шчырыя руплііўцы ейнага перахаваньня Адам Мальдзіс, Сьцяпан Аляксандровіч і Кастусь Цьвірка, а таксама Аляксандар Капусьцін і драматург Мікалай Матукоўскі на паседжаньні гэным выказваліся за тое, каб даваць больш увагі выданьню й перавыданьню спадчыны Кастуся Каліноўскага, Адама Гурыновіча, Каруся Каганца, паводле савецкай тэрміналёгіі г. зв. „рэвалюцыйных дэмакратаў", а таксама пісьменьнікаў савецкага часу Язэпа Пушчы, Барыса Мікуліча ды пісьменьнікаў, што загінулі на франтох мінулае вайны.

Зацемка Арсеня Ліса, таксама энтузіястага й дасьледніка культурнае спадчыны мінуўшчыны, мае ня толькі навуковую, а й глыбокую палітычную вымову. Яна сьветчыць пра тое, што ведзеная на працягу ўсяго пасьлясталінскага пэрыяду кампанія ў друку за выданьне й перавыданьне літаратурнае спадчыны мінуўшчыны не зацíхла й сяньня. Важная палітычная вымова гэтае кампаніі ў тым, што яна вядзецца ў поўнай супярэчнасьці з партыйнымі дзейнікамі, якія сыстэматычна праводзяць адваротныя да гэтай кампаніі мерапрыёмствы. Мерапрыёмствы гэтыя скіраваныя да прамоўчваньня й аддаваньня забыцьцю нацыянальных і палітычных зьяваў мінуўшчыны, нясугучных палітыцы партыі.

Дзеля канкрэтнага праілюстраваньня гэтае зьявы возьмем першы прыклад, што меў месца на згаданым паседжаньні Гістарычна-мэмарыяльнай Камісіі — справу перавыданьня літаратурна-публіцыстычнай спадчыны Кастуся Каліноўскага. Як ведама, Кастусь Каліноўскі й ягоная паўстанская дзейнасьць сталіся ў Беларусі аб'ектам глыбокага піетызму, створанага патрыятычна настроенымі беларускімі гісторыкамі, літаратуразнаўцамі, пісьменьнікамі й мастакамі. У вадпаведнасьці з гэтым літаратурна-публіцыстычная спадчына Кастуся Каліноўскага ўважаецца ў Беларусі нацыянальным скарбам неацэннай каштоўнасьці.

З боку колькаснага спадчына гэтая вельмі сьціплая. Яна складаецца зь сямёх кароценькіх нумароў нелегальнае газэткі „Мужыцкая праўда", з кароценькага таксама „Пісьма спад шыбеніцы да Беларускага народу" ды з кароткага вершыка „Марыська-чарнаброва, галубка мая", што перавыдаць яе друкам не прадстаўляла-б ніякае тэхнічнае цяжкасьці. Не зважаючы на гэта, пасьля апошняга поўнага выданьня „Мужыцкай праўды" ў 1928 годзе ў кнізе С. Агурскага „Очерки по истории революционного движения в Белоруссии, 1863-1917", а „Пісьма спад шыбеніцы" — у артыкуле прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага ў красавіковым нумары часапісу „Полымя" 1927 году, літаратурна-публіцыстычная спадчына Кастуся Каліноўскага больш нідзе поўнасьцяй ня перадрукоўвалася й даўнымдаўно ўжо становіць бібліяграфічную рэдкасьць. Навет у выдадзенай у 1971 годзе выдавецтвам „Вышэйшая школа" хрэстаматыі „Беларуская літаратура XIX стагодзьдзя" ў камэнтарох зазначана, што **„ўсе творы Кастуся Каліноўскага даюцца ва ўрыўках".**

Гэтыя „ўрыўкі", прыкладам, трэйцяга нумару „Мужыцкай праўды" гэтак сьведама падабраныя тэндэнцыйна, што ў іх не аказалася ніводнае з колькіх у гэным нумары мясьцінаў, якія пацьвярджаюць глыбокую рэлігійнасьць і веру ў Бога Кастуся Каліноўскага. Тым ня менш, абасноўваючыся на вырваных з кантэксту няпоўных сказах гэтага нумару „Мужыцкае праўды", Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя дадумалася да гэткага несамавітага кур'ёзу, што прадставіла Кастуся Каліноўскага як перакананага „атэіста".

Яшчэ больш пракудна выглядае ў пакалечаным тэксьце „Пісьмо спад шыбеніцы" ў згаданай хрэстаматыі „Беларуская літаратура XIX стагодзьдзя". Апошні найважнейшы сказ гэтага „Пісьма" абарваны на палавіне: надрукаваны адно пачатак гэнага сказу **„Бо я табе спад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва"**, а ягонае заканчэньне **„калі над табой маскаля ўжо ня будзе!"**, — апушчанае, хоць гэнае месца й абазначанае шматкроп'ем. І гэта ў хрэстаматыі выдадзенай выдавецтвам „Вышэйшая школа", у анатацыі да якой ад гэнага выдавецтва чытаем, што гэта: **„Вучэбны дапаможнік для студэнтаў-філёлягаў пэдінстытутаў і ўнівэрсытэтаў па гісторыі беларускай літаратуры"!?**

Прыведзены прыклад калечаньня спадчыны Кастуся Каліноўскага нагэтульки вульгарны й шыты белымі ніткамі, што, здавалася-б, перад гэткай грубой тэндэнцыйнасьцяй зусім ужо бездапаможныя ўсе тыя сумленныя людзі, што з матываў ня толькі нацыянальных, але й з элемэнтарнай пашаны да праўды хацелі-б бачыць гістарычную спадчыну беларускага народу гэткай, якой яна была ўзапраўднасьці. Тымчасам-жа выдавецкая практыка БССР часамі паказвае й адваротнае: тое, што хоць і ў ня поўнай, а адно ў некаторай ступені патрабаваньні беларускіх творчых працаўнікоў усёж не застаюцца й без пазытыўных вынікаў. На пацьверджаньне гэтых дасягненьняў беларускіх патрыётаў можна прывесьці цімала фактаў. З прычыны, аднак, нястачы месца абмежымся да аднаго толькі факту, магчыма асабліва зыркага й бясспрэчнага — да практыкі перавыданьня твораў Янкі Купалы.

У паваенным пэрыядзе зьявіліся ўжо тры выданьні „Збору твораў" Янкі Купалы. Першы шасьцітомавы „Збор твораў" быў выдадзены ў 1952-54 гадох. У гэтае выданьне з цэнзурных меркаваньняў не ўвайшло звыш 160 твораў як дарэвалюцыйнага, гэтак і парэвалюцыйнага пэрыяду, што складала каля аднае трэйцяе часьці ўсяе літаратурнае спадчыны народнага паэты Беларусі. Гэтая хірургічная апэрацыя над літаратурнай спадчынай найвялікшага беларускага паэты куды

(Заканчэньне на 4-й бачыне)

# КНІГА ПРА ЭТНІЧНЫЯ ГРУПЫ НЬЮ ДЖЭРЗІ

Як падала газэта „Нью Ёрк Таймс" за нядзелю 28 лістапала сёлета (у сваёй сэкцыі для штату Нью Джэрзі), неўзабаве мае выйсьці з друку ілюстраваная кніга пра 25 этнічных групаў штату. У Нью Джэрзі, паводля перапісу 1970 году, 9% жыхароў народжаных за межамі ЗША, больш як 21% дзяцей штату — дзеці імігрантаў. Ёсьць у кнізе й разьдзел пра беларускую групу, напісаны др. Вітаўтам Кіпелям. Кнігу выдае ньюджэрзійская штатавая камісія адзначэньня 200-годзьдзя Амэрыкі.

У сваім артыкуле пра выхад кнігі „Нью Ёрк Таймс" згадаў і беларускі разьдзел кнігі, падаў выказваньні аўтара разьдзелу, ягонае апісаньне калярытнага беларускага сьвята Купальле.

Кніга будзе загалоўленая „Піпл оф Нью Джэрзі" („Людзі Нью Джэрзі"). Адразу-ж па выхадзе, дзесьці на пачатку наступнага году, яна будзе разасланая па бібліятэках штату, школьных і ўнівэрсытэцкіх, каб маладыя чытачы мелі магчымасьць лепш пазнаёміцца з культурнай спадчынай свае грамады й суседніх групаў.

Рэдактар кнігі Барбара Канінгэм сказала карэспандэнту „Нью Ёрк Таймс", што цяпер у жыхароў штату куды большая этнічная сьведамасьць, як у 1964 годзе, калі выйшла з друку падобная кніга, але напісаная не калектыўна, а адным толькі чалавекам. На думку Б. Канінгэм, новае выданьне дасьць добрае ўяўленьне пра этнічную разнароднасьць штату Нью Джэрзі.

# НА СЛУЖБЕ РОДНАЙ ПЕСЬНІ

Толькі цяпер дайшла да нас кніга Ніла Гілевіча „Паэтыка беларускай народнай лірыкі", што выйшла летась у выдавецтве „Вышэйшая школа". Гэта самае апошняе дасьледваньне беларускай народнай творчасьці Ніла Гілевіча й адначасна найсьвяжэйшая навуковая праца з гэтае галіны наагул. Ейны аўтар Ніл Гілевіч адзін з выдатных і вядучых сучасных беларускіх паэтаў, літаратурны крытык і перакладнік паэзіі Паўдзённых Славянаў, ён-жа гарачы энтузіясты беларускай народнай творчасьці й адзін зь вядучых ейных дасьледвальнікаў. Ён і выкладчык беларускай народнай творчасьці на катэдры беларускай літаратуры Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту ў Менску.

Вось чаму навуковая дзейнасьць Ніла Гілевіча сталася аб'ектам асаблівае ўвагі, ня менш важным і цікавым для беларускай культуры, чымся ягоная нязвычайна плённая й шырака разгалінаваная дзейнасьць для сучаснае беларускае літаратуры.

Дзейнасьць Ніла Гілевіча ў галіне беларускае народнае творчасьці й фальклярыстыкі адчыняе першая ягоная папулярна-навуковая праца з гэтае галіны „Наша родная песьня", што выйшла ў 1968 годзе. Наступная ягоная кніга 1970 году выданьня „З клопатам пра песьні народу" мае характар навукова-публіцыстычны і ўдала дапаўняе кнігу першую.

Сталая й сыстэматычная дзейнасьць у галіне народнае творчасьці й фальклёру інтэнсыўна разгортаецца на Беларусі ў трох, узаемна між сабой зьвязаных, кірунках: у кірунку сучасных запісаў народнае творчасьці й фальклёру, у кірунку выдавецка-публікацыйным і ў кірунку навукова-дасьледвальным.

У галіне публікацыі беларускае народнае творчасьці й фальклёру галоўнае займае месца распачатае ў 1970 годзе выданьне 30-цітомавага зборніка „Беларуская народная творчасьць", зрыхтоўванага Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру Акадэміі навукаў БССР. Сёлета выйшаў ужо 10-ы том гэтага капітальнага выданьня — „Сацыяльна-бытавыя казкі". З увагі на факт, што публікацыі традыцыйнай народнай творчасьці нашымі этнографамі й фальклярыстымі XIX — пачатку XX стагодзьдзяў — сяньня ўнікальная бібліяграфічная рэдкасьць, перавыданьне лепшых узораў гэтае творчасьці ды папаўненьне яе сучаснымі запісамі цяжка пераацаніць.

Высокае навуковае каштоўнасьці й некаторыя ўводныя артыкулы да паасобных зборнікаў „Беларуская народная творчасьць", грунтоўна апрацаваныя гэткімі прафэсыйнымі спэцыялістымі, як К. Кабашнікаў, А. Фядосік, М. Грынблят, І. Цішчанка, Зінаіда Мажэйка, Арсень Ліс і іншыя. Апрача падсумаваньняў ранейшых навуковых дасягненьняў у паасобных жанрах народнае творчасьці й фальклёру, іхныя ўводныя артыкулы прыносяць і цімала новага, дасюль ня ведамага.

Ува ўсіх трох згаданых кірунках запісваньня, выдаваньня й дасьледваньня беларускай народнай творчасьці асаблівы энтузіязм і руплівасьць праяўляе Ніл Гілевіч. Гэтак у 1973 годзе выйшаў вялікі зборнік „Песьні сямі вёсак", запісаных студэнтамі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту пад кіраўніцтвам выкладчыка гэтага ўнівэрсытэту Ніла Гілевіча. Працягам і дапаўненьнем гэтага зборніка стаўся выдадзены ў 1974 годзе зборнік „Песьні народных сьвят і абрадаў".

Зусім нядаўна сёлета ў выдавецтве „Вышэйшая школа" выйшаў з друку складзены й зрэдагаваны Нілам Гілевічам зборнік „Лірычныя песьні", які абыймае 1100 песьняў і прыпевак беларускай пазаабрадавай лірыкі, запісаных студэнтамі БДУ ў 1961-1971 гг. у часе фальклёрнае практыкі на тэрыторыі Менскай і Віцебскай вобласьцяў. Зборнік выйшаў як трэйцяя кніга ў сэрыі „Беларускі фальклёр у сучасных запісах".

Важнасьць гэтых Гілевічавых публікацыяў галоўна ў тым, што сяньняшняе бытаваньне ў народзе традыцыйнае абрадавае лірыкі, як сьцьвердзіў ён у вельмі каштоўным уводным артыкуле да зборніка „Песьні сямі вёсак", **„прымушае глядзець на старую абрадавую песьню не як на мёртвы эстэтычны капітал, а як на жывую, жыватворную й жыцьцядайную сілу, у якой ёсьць ня толькі мінулае, але й будучае. Жыцьцёвасьць гэтай паэзіі — у яе высокіх ідэйна-мастацкіх якасьцях, у чалавечай высакароднасьці зьместу й паэтычным харастве формы".**

У пляне агульнага ажыўленьня ўвагі да народнай творчасьці й фальклёру важную пазыцыю становіць і грунтоўная манаграфія Ніла Гілевіча „Паэтыка беларускіх загадак", што спачатку друкавалася ў красавіковым нумары часапісу „Полымя" за 1974 год, а, як інфармаваў ейны аўтар у згаданым нумары газэты „Літаратура і Мастацтва", хутка мелася выйсьці, хоць яшчэ ня выйшла, і кніжным выданьнем. Сваё цікавае дасьледваньне пачынае Ніл Гілевіч заўвагай, у якой вызначае гэткую высакародную мэту сваёй працы:

**„Пачнём з традыцыйнага, навет трафарэтнага сьцьверджаньня: прадмет нашай размовы да гэтага часу амаль зусім не дасьледваны. Мусім, аднак, зрабіць абавязковую агаворку, што ў выбары тэмы менш за ўсё кіраваліся жаданьнем запоўніць відавочны прабел у беларускай фальклярыстыцы. Наша сьціплая спроба пранікнуць у паэтычны сьвет беларускіх загадак прадыктавана іншым, а іменна — глыбока ўсьведомленым перакананьнем, што ў беларускай загадцы заключана сапраўдная і — не пабаімся сказаць — дзівосная паэзія. Вось і хацелася-б заадно з чытачом больш-менш засяроджана і ўважліва перабраць як рассыпаныя на стале каштоўныя дыямэнты, і палюбавацца зіхатлівымі пэрламі народнай паэтычнай скарбніцы, падзяліцца пры гэтым сваімі думкамі й меркаваньнямі, а налюбаваўшыся — яшчэ раз акрыліцца ў душы пачуцьцём шчасьлівай гордасьці, што ўсё гэта нязвычайнае багацьце створана на зямлі нашых дзядоў і прадзедаў, што яно цяпер належыць нам.. і што наш найвялікшы абавязак — ня толькі з сыноўняй адказнасьцю берагчы гэты духоўны скарб, але і шчодра надараць ім сваіх сучасьнікаў і далёкіх сяброў, усіх, чые сэрцы адкрыты паэзіі".**

З прыведзеных словаў бачым, што ў сваёй працы пры дасьледваньні паэтыкі беларускіх народных загадак кіраваўся Ніл Гілевіч першнаперш пачуцьцём беларускага патрыятызму. Гэткім-жа ў многіх важных пытаньнях першаадкрывальнікам і першапраходцам, як у сваёй манаграфіі пра паэтыку беларускіх народных загадак дый у іншых сваіх навуковых працах, быў Ніл

 

# КРАСА КРАЯВІДАЎ МАЛЕНСТВА

„Кругазварот сонца”

**Ад прадзедаў спакон вякоў**
**мне засталася спадчына . . .**
**Янка Купала**

Адзін з раёнаў ніжняга Мангэтану Нью Ёрку апошнімі гадамі стаўся важным мастацкім асяродкам. Тут заснавалася шмат галярэяў, у якіх маладыя мастакі маюць магчымасьць паказаць свае творы, свае здольнасьці, свае мастацкія перакананьні, сваё „вераю”. Выстаўляюцца ў гэтых галярэях творы мастакоў усіх навейшых мадэрных кірункаў. У мастацкіх колах раён гэты мае й свой ужо назоў — СОГО, скарот словаў South of Houston — „на поўдзень ад вуліцы Гаўстон”.

Ад гадоў колькіх у ньюёрскім СОГО існуе й выставовая галярэя клюбу жанчын-мастакоў СОГО 20. Лічба „20” у назове азначае, што лік сяброў клюбу абмежаны да дваццацёх. Творчай актыўнасьцяй сярод гэтых дваццацёх выдзяляецца апошнім часам нашая зямлячка, ведамая ўжо беларускаму грамадзтву мастачка, Галіна Русак.

Сёлета, у днях 6. XI - 1. XII, у СОГО 20 адбывалася трэйцяя ўжо выстаўка малюнкаў Галіны Русак. Прыймала Галіна Русак удзел сёлета і ў колькіх іншых амэрыканскіх выстаўках. Творы ейныя можна было бачыць і на выстаўцы колькітысячнага веснавога Беларускага Фэстывалю ў Нью Джэрзі. Колькі ейных малюнкаў паказана й на сёлетняй, зладжанай Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, 2-ой Выстаўцы беларускіх мастакоў Эўропы й Амэрыкі.

Галярэя СОГО 20 у дзень адкрыцьця выстаўкі малюнкаў Галіны Русак была запоўненая наведвальнікамі, пераважна ейнымі суродзічамі зь Нью Ёрку ды Нью Джэрзі, што ад гадоў зь вялікім зацікаўленьнем сочаць ход разьвіцьця творчых здольнасьцяў свае таленавітае зямлячкі. У галярэі СОГО 20 Галіна Русак дае паказы толькі сваіх твораў навейшага кірунку, істота якога — пошукі арыгінальнага сабе стылю, стылю, які выражаў-бы ейныя мастацкі сьветагляд, які найлепш адказваў-бы ейнай духовай індывідуальнасьці.

На цяперашняй выстаўцы паказана было шэсьць вялікіх, маляваных акрылічнымі хварбамі, палотнаў. Усе малюнкі выстаўкі маюць арыгінальныя беларускія назовы, якія не заўсёды адэкватна перакладаюцца ў ангельскую мову: „Кіяны”, „Кругазварот сонца”, „Курган”, „Васілёк”, „Шляхі”, „Спадчына”. Тэма паказаных на выстаўцы палотнаў, як і малюнкаў, што былі на папярэдніх выстаўках СОГО 20, гэта рамантычнае выражэньне красы краіны свайго нараджэньня й маленства, свае роднае Навагрудчыны. Як амэрыканская крытыка адзначыла, малюнкі Галіны Русак, гэта „лірычны пераказ тугі” за вытокамі свайго паходжаньня, „тугі гэтак моцнае, як туга за сваёй маткай”.

Для перадачы на палатне свае мастацкае задумы мастачка й гэтым разам карысталася адмыслова толькі колькімі найбольш характэрнымі прыкметамі-сымбалямі дарагога ёй ад маленства краявіду ды колькімі асноўнымі колерамі. На малюнках, у мастацка-кампазыцыйна рознай функцыі паўтараюцца ўвесь час рамонкі, макі, васількі. На адным з палотнаў зьявіліся гэтым разам і кіяны — называюць іх у Беларусі таксама пухоўкамі, кіяўкамі, кіёўкамі. Гэтыя сымбалі роднае зямлі раськінутыя на хвалістай паверхні крявіду, над якім разгортваецца цёмная сінь нябёсаў, а зь яе зьзяе вялікае яскравае кола сонца.

У прыраўнаньні да папярэдніх палотнаў таго самага стылю, гэтым разам можна заўважыць тарнаваньне яскравейшых хварбаў. Адзначыць трэба й намаганьне з сымбаляў прыроды краявіду кампазыцыйна зьвязаць і элемэнты абстрактных узораў з народных тканінаў, паясоў, вопраткі. Ёсьць спробы сягнуць і ў легендарнае мінулае роднага краю: з старавечнага кургана вырас ды на фоне сонцавага кола закрасаваў блакітны васілёк.

Мастацкая выява ўспамінаў-візіяў красы зямлі свайго маленства ў творах Галіны Русак арганічна зьвязаная з ейным перакананьнем пра патрэбу духовага звароту чалавека да вытокаў свае біялягічнае існасьці — да зямлі, да прыроды, да ейнае красы, што вечна адраджаецца. У пару асабліва шпаркае ўрбанізацыі ды паўсюднае мэханізацыі, туга за першабытна простым „загубленым раем”, за красою прыроды, рэч натуральная й зразумелая.

Паказаныя на апошняй выстаўцы палотны Галіны Русак сьветчаць, што мастачка наважана й настойліва шукае найбольш сабе адпаведнага спосабу мастацкага выражэньня хварбамі на палотнах свае нацыянальнае спадчыны, сваіх духовых нацыянальных вытокаў. Настойлівасьць гэтых пошукаў абумоўленая й ейным, экалягічна ар'ентаваным, філязафічным сьветаглядам.

**Р. Максімовіч**

# ІНТЭРВЮ ЗЬ МІХАСЁМ НАЎМОВІЧАМ

Сп. Міхась Наўмовіч, ведамы беларускі скульптар, графік і маляр, які наведаў нядаўна Нью Ёрк, даў нашай газэце ніжэй зьмешчанае інтэрвю:

**Карэспандэнт:** Сп. Наўмовіч, якімі сваймі мастацкімі творамі Вы прадстаўленыя на выстаўцы, што адчынілася нядаўна ў Беларускім Грамадзка-Рэлігійным Цэнтры ў Брукліне?

**Наўмовіч:** Я прывёз з сабою макет праекту помніка нашаму выдатнаму першадрукару Францішку Скарыну. Помнік гэты быў замоўлены Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку. Апрача гэтага, я даў на паказ (і ў першы-ж дзень выстаўкі яны былі ўсе купленыя наведвальнікамі) колькі акварэляў — партрэтаў ды пэйзажаў.

**К.:** Беларускіх пэйзажаў?

**Н.:** Не, францускіх, дакладней кажучы — францускіх Альпаў, дзе я праводжу летнія адпачынкі. Беларускія краявіды мне ўжо даволі цяжка ўяўляць, а мастак-жа павінен тварыць у кантакце з жывой прыродай.

**К.:** З чаго будзе зроблены й дзе пастаўлены помнік Скарыну паводля Вашага праекту?

**Н.:** Выкаваны ён будзе з каменя, мэтраў два ўвышкі, а дзе будзе пастаўлены тымчасам ня ведама.

**К.:** Ваш Скарына — гэта фігура чалавека ў маршы з кнігай у руках. Якая ў гэтым сымболіка?

**Н.:** Я ўяўляю сабе Скарыну — які падаўся быў у далёкую Італію пешкі ды пешкі й назад вяртаўся — у мамэнт ягонага звароту з Падуі й Прагі, адкуль ён прынёс друк для свайго народу, а фактычна — для цэлае Ўсходняе Эўропы. Дык я яго гэтак і ілюстроўваю: фігура ў маршы з кнігай у руках.

**К.:** На выстаўцы ў дзень адчыненьня было чалавек пад сто наведвальнікаў. Ці была якая рэакцыя на Ваш праект Скарынавага помніка?

**Н.:** Рэакцыя была, прыхільная. Былі й пажаданьні (зь якімі я згодзен): каб кнігу сваю Скарына трымаў у руках зь яшчэ большай беражлівасьцяй, каб гэтым падчыркнуць каштоўнасьць ягонага дару Беларусі ды суседнім зь ёю народам.

**К.:** У якіх вышэйшых навучальных установах Парыжу Вы даяце выклады?

**Н.:** Я даю лекцыі ў вышэйшай школе графікі — прыватная школа пры шырака ведамай парыскай акадэміі Жуліяна. Апрача гэтага, выкладаю марфалёгію чалавека ў Нацыянальнай школе фізіятэрапіі, што падлягае францускаму міністэрству асьветы.

**К.:** У Вас, прафэсар Наўмовіч, як у чалавека, што нарадзіўся й частку маладосьці правёў на Беларусі, захавалася, пэўна-ж, пачуцьцё прывязанасьці да краю свайго паходжаньня. Як-жа Вы жывіцеся, так сказаўшы, сокамі бацькаўшчыны ў сваёй мастацкай творчасьці?

**Н.:** Я нясупынна цікаўлюся беларускай літаратурай (асабліва паэзіяй), культурнымі навінамі, чытаю, наколькі час дазваляе, беларускія савецкія публікацыі, зь якіх бачу, што Беларусь, не зважаючы на ўсе цяжкасьці, мае цімала творчых дасягненьняў, цікавая шмат якімі сваімі талентамі ў галіне духовае культуры, упаасобку выўленчага мастацтва. Гэта й трымае мяне на духу як мастака-Беларуса на эміграцыі.

# АДЧЫНЕНЬНЕ МАСТАЦКАЕ ВЫСТАЎКІ

Каля сотні асобаў былі на адчыненьні выстаўкі твораў малярства, рысунку, графікі й скульптуры 28 лістапада сёлета ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Брукліне (401 Атлянтык Авеню). Выстаўку адчыніў др. Вітаўт Тумаш, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Прывітаўшы гасьцей, др. Тумаш прадставіў ім мастакоў-удзельнікаў. На выстаўцы паказаныя творы: Барыса Данілюка, Янкі Юхнаўца, сьв. пам. Ліды Каліноўскае-Даніловіч, Язэпа Казьлякоўскага, Надзеі Кудасавай, Людмілы Махнюк, Пётры Мірановіча, Элеаноры Норык, Міхася Наўмовіча, Ірэны Рагалевіч, Галіны Русак, Міхася Саўкі, сьв. пам. Аляксандра Стагановіча, Ст. Тамары, Івонкі Сурвілы, Уладзімера Шыманца, Ксэні Тумаш, Віктара Жаўровіча.

Густаваньне мастацтва адбывалася з пачастункам пуншам раскошнага смаку (зрыхтаваным сп-нямі Надзеяй Кудасавай, Зорай Кіпель і Людай Махнюк), што спрыяла эстэтычнай насалодзе ды абмену думак пра высокі ў цэлым узровень паказаных твораў ды добра арганізаваную Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва чарадную мастацкую выстаўку беларускіх мастакоў Амэрыкі й Эўропы. Выстаўка пратрывае да канца сьнежня сёлета.

# "ЦЕНЬ ГУЛЯГУ НАД ВЯЛІКАБРЫТАНІЯЙ"

Напрыканцы кастрычніка й пачатку лістапада сёлета на запросіны Выканаўчага Камітэту Лейбарыстаўскай партыі наведаў Вялікабрытанію ведамы стары й бяспрынцыповы савецкі прыстасаванец Барыс Мікалаевіч Панамароў. Яму ўжо 71 год і ён на выдатна прайшоў праз усе крутыя выгібы партыйнае лініі й цьвёрда замацаваўся на камуністычных вярхох.

Ён яшчэ за часоў карыфэя людаедзтва Сталіна запачаткоўваў хвалі чыстак і тэрору сваімі правакацыйнымі артыкуламі ў савецкай прэсе. Здабыў сабе вялікую практыку ў жорсткім здушэньні ўсякіх нацыянальных праяваў на Беларусі, Украіне, Грузіі й пазьней у Прыбалтыцы й Польшчы. Ён-жа й здыгрываў савецкія пучы ў Вугоршчыне ў 1956 годзе й Чэхаславаччыне ў 1968 годзе ды быў аўтарам імпэрыялістычнай дактрыны Брэжнёва пра абмежаньне суверэннасьці народаў савецкага блёку.

Цяпер ён зьяўляецца сакратаром ЦК КПСС і кіраўніком ягонага міжнароднага аддзелу. Яму падлягаюць гэткія пракамуністычныя арганізацыі на Захадзе, як Міжнародны Кангрэс Міру й Міжнародны Кангрэс Прафсаюзаў, а ў Маскве дзьве псэўданавуковыя ўстановы — Ленінскі Інстытут і Ўнівэрсытэт імя Патрыцыя Люмумбы. Функцыямі гэтых установаў ёсьць падрыхтоўка шпіёнаў і дывэрсантаў супраць усіх дэмакратычных краёў сьвету.

Панамароў таксама адказны за трыманьне на кароткім павадку ўсіх кіраўнікоў замежных камуністычных партыяў. Вельмі павучальная аналёгія між павуком і Панамаровым. Ён выткаў радыяльныя ніткі сваёй павуцінай сеткі ўва ўсе краі Вольнага Сьвету і зь ейнага цэнтру пільна сочыць за неасьцярожнымі будучымі ахвярамі. З усіх гэтых функцыяў і выплывае патрэба ягоных замежных пабыў, каб лепш мець на воку падпарадкаваных сабе выканальнікаў.

Усе гэтыя Панамаровы функцыі й абавязкі былі выясьненыя ангельскай прэсе на адмысловай прэсавай канфэрэнцыі за дзень перад ягоным прыбыцьцём у Ангельшчыну, скліканай супольна ангельскай арганізацыяй NAFF (National Association For Freedom) і каардынацыйнай эміграцкай арганізацыяй ELG (European Liaison Group), у якую ўваходзяць 14 нацыянальнасьцяў з Усходняе Эўропы, у тым ліку й Беларусы.

У дзень прыезду Панамарова 28 кастрычніка гэтымі дзьвюма арганізацыямі была наладжаная вялікая пратэстацыйная дэманстрацыя з даўгім паходам з адпаведнымі плякатамі праз цэнтр Лёндану. Калі Панамароў ,прыехаўшы ў дом Кангрэсу Прафсаюзаў на ладжанае яму прыняцьцё, пабачыў гэтую дэманстрацыю, быў відавочна вельмі зьбянтэжаны й у акружэньні кагэбістых хутка ўцёк у будынак. Прыняцьцё, плянаванае ў вялікай залі ўнізе, на хуткую руку й у вялікім замяшаньні было перанесенае аж на самы верхні пяты паверх. Але й там усе прамовы дэманстрантаў былі добра чуваць праз рупар. Прыняцьцё мелася трываць адну гадзіну, але было прадоўжанае да трох гадзінаў у надзеі, што дэманстранты разыйдуцца. Уканцы арганізатарам прыняцьця прыйшлося вышмугляваць Панамарова праз задні ўваход.

На дэманстрацыі прамаўлялі ўплывовыя ангельскія дзеячы, як старшыня NAFF Лёрд Дэ Ляйль і дырэктар Робэрт Мосс і маёр Джон Гурыет, пасол у Парлямант Уінстон Чэрчыль (унук ведамага Ўінстана Чэрчыля), д-р Стывэн Гэйсьлер (сацыял-дэмакратычны сябра Лёнданскага самаўраду). Усе яны салідарызаваліся з паняволенымі народамі й сарамацілі арганізатараў прыняцьця й гасьпадароў непажаданага „гасьця”. У сваёй прамове Лёрд Дэ Ляйль, між іншым, сказаў: **„Сяньня я гляджу й бачу, як цень Гулягу расплываецца над Вялікабрытаніяй”.**

Праз увесь час Панамаровага побыту, дзе ён толькі ня ступіў, дэманстранты былі тут-жа. Але, зразумела, наступныя дэманстрацыі не маглі быць гэткімі люднымі, як першая дэманстрацыя. Гэта часткава падняло Панамарова на духу. Калі адзін карэспандэнт запытаўся ў яго пра апінію аб дэманстрацыях, ён адказаў: **„я сейчас их даже не назвал бы демонстрациями. Они как гнилой туман исчезают от лучей стали . . . (нского?)**, направіўся **„ . . . советского солнца . . .”**, зноў направіўся **„. . .солнца англо-советской дружбы”.**

Другі раз ён сказаў, што ўсё гэта — толькі агітацыя й інтрыга сыяністых, якія, зь ведамых прычынаў, не жадаюць англа-савецкай дружбы. Тут яму, бадайшто нясьведама, падказала ангельская прэса, якая ў сваіх, прызнаем, годных пахвалы жаданьнях дапамагчы перасьледаванаму жыдоўскаму жыхарству Савецкага Саюзу, зрабіла яму, калі гэтак сказаць, мядзьведжую прыслугу, пішучы толькі пра Жыдоў, а ігнаруючы іншыя перасьледаваныя ў СССР нацыянальнасьці. Пара ўжо ім зразумець, што разглядаючы Жыдоў, як выбраны народ у сэнсе палітычным, яны ім шмат дабра ня зробяць, а толькі шмат пашкодзяць.

**А. З.**

Гілевіч і ў сваім леташнім дасьледваньні „Паэтыка беларускай народнай лірыкі”. Як і ў іншых сваіх фальклярыстычных працах, гэтак і ў гэтым апошнім сваім дасьледваньні кіраваўся ён таксама беларускім патрыятызмам, пра што згадвае ён неаднакротна ў сваёй кнізе.

Дасьледваньне „Паэтыка беларускай народнай лірыкі” складаецца з трох разьдзелаў: „Вобразна-выяўленчыя сродкі народнай лірыкі”, „Інтанацыйна-сынтаксычная сыстэма народнапесеннай мовы”; „Гукапіс і рыфма ў народнай песьні”. Усе тры разьдзелы апрацаваныя на высокім навуковым узроўні з улікам найнавейшых навуковых дасягненьняў у галіне паэтыкі народных песьняў. Каштоўнай асаблівасьцю кнігі перш-наперш тая, што паасобныя стылістычныя і гукавыя зьявы старанна разгледзеў аўтар у самых розных жанрах і тыпах беларускіх народных песьняў і ў выніку грунтоўнага іхнага аналізу вызначыў галоўныя стылёвыя асаблівасьці кожнага зь іх.

Другім важным дасягненьнем працы Ніла Гілевіча тое, што ён шырака раскрыў і навукова абгрунтаваў нацыянальную самабытнасьць і апрычонасьць беларускай народнай песьні якраз у характары й існасьці ейных мастацкіх вобразаў, выяўленчых сродкаў ды ў ейных гукапісных прыёмах. Дасьледвальнік пераканальна даводзіць, што найбольш мэтазгодным і жыватворным шляхам разьвіцьця мастацкае або пісанае паэзіі — ейнае арыентаваньне на вусную народную паэзію, ейнае творчае выкарыстаньне ў творах прафэсійнае паэзіі. Моцна верачы, што якраз у гэтым будучыня нашае паэзіі, Ніл Гілевіч канчае сваё дасьледваньне гэткімі словамі:

**„Таму і лічым, што наша запрашэньне бліжэй заглянуць у паэтычную майстэрню народу — гэта арыентацыя не назад, у мінулае, а наперад, у будучае. Якімі шляхамі ў творчасьці лепш ісьці — народная паэзія падказа нам яшчэ не аднойчы”.**

Пацьверджаньнем правільнасьці прыведзеных Гілевічавых прадбачаньняў можа быць бясспрэчны факт, што ня толькі ў мастацкай літаратуры, у паэзіі, але і ў іншых галінах мастацтва й некаторых зьявах культуры апошнімі гадамі штораз выразьней заўважаецца гэная арыентацыя на фальклёр і беларускую народную творчасьць. Няма патрэбы й даводзіць, што зьява гэтая застаецца ў прычыновай сувязі з агульным ажыўленьнем увагі да беларускай народнай творчасьці й фальклёру. А ў гэтым адна з вялікіх заслугаў і Ніла Гілевіча.

Неабходна зазначыць, што беларускую народную песьню ўславіў Ніл Гілевіч і ў сваёй паэтычнай творчасьці, а ягоная паэма 1971 году „А дзе-ж тая крынічанька”? — гэтак названая словамі ведамае народнае песьні, — гэта натхненны гімн і апатэоза народнае песьні, як сьветчаць пра гэта наступныя радкі паэмы:

О, песьня Маці! Колькі горкай горычы
Сабрала ты ў вадным вялікім сэрцы
З лугоў і ніў, з застольляў ды з камарак,
Калі душа гібела ў паняверцы!
Ты — сымбаль лёсу і скрыжаль адвечнасьці,
Ты — дум і мар людзкіх выток бясконцы,
Ты — найвялікшы гімн чалавечнасьці,
Красы і веры нашай абаронца!

У анатацыі ад выдавецтва да кнігі „Паэтыка беларускай народнай лірыкі” сказана: **„Кніга адрасуецца фальклярыстым і літаратуразнаўцам, студэнтам-філёлягам, настаўнікам-славесьнікам і ўсім, хто цікавіцца пытаньнямі нацыянальнай паэзіі і мастацтва”.** Значыцца, кніга прызначаная для вельмі шырокага кола чытачоў. Тымчасам гэткае прызначэньне кнігі гучыць штонайменш зьдзеклівай гіроніяй пры іншай інфармацыі ад выдавецтва, што кніга выйшла тыражом усяго дзьве тысячы экзэмпляраў?! А трэба-ж ведаць, што кніжныя тыражы ў БССР, якія для важных з нацыянальнага гледзішча выданьняў наагул, як правіла, вельмі мізэрныя, вызначаюцца партыйнымі органамі.

**Ст. Станкевіч**

# ЖАНОЦКАЯ СТАРОНКА

## БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ АДЗЕНЬНЕ — — ЛЮСТРА СТАРАЖЫТНАЕ КУЛЬТУРЫ

На Беларускім Фэстывалі, што адбыўся ў тэатры Мастацкага Штатавага Цэнтру ў штаце Нью Джэрзі ў чырвені 1976 году, упяршыню на эміграцыі быў зроблены паказ беларускага народнага адзеньня зь некалькіх мясцовасьцяў Беларусі ў Меншчыне, Віцебшчыне, Магілеўшчыне, Гомельшчыне, Горадзеншчыне, Берасьцейшчыне й на Палесьсі. Апрача гэтага быў паказаны традыцыйны беларускі касьцюм, ужывані цяпер у нас на эміграцыі пераважна беларуска-амэрыканскай моладзяй, а таксама харыстымі народных хораў і нагул тымі, што апранаюць яго на розных нашых традыцыйных імпрэзах, выстаўках і нацыянальных сьвяткаваньнях.

Дэманстрацыя народнага адзеньня, хоць можа й не багатая аўтэнтычнымі старадаўнімі тканымі касьцюмамі ды абмежаваная колькасьцяй прадстаўленых пунктаў Беларусі, — бо толькі зь сямі мясцовасьцяў вышэй названых сяньняшніх вобласьцяў БССР, — аднак аказалася выдатнай зьявай, што прыцягвала да сябе пільную ўвагу ня толькі Беларусаў, якія зьехаліся з усёй Амэрыкі, але й іншых нацыянальнасьцяў ды аўтахтонных Амэрыканцаў.

Захапляліся паказам чужыя, захапляліся й Беларусы, асабліва беларускія жанчыны. І здавалася нам, што ўсё гэта нам добра ведамае ад маленства, хоць трохі ўжо прызабытае, бо-ж некаторыя бачылі аўтэнтычныя гэтыя ўборы ў дзяцінстве, калі бабка ці навет прабабка амаль з пабожным піетызмам адчыняла размаляваны куфар і ў сьвяточны дзень убіралася ў самае старажытнае, самае лепшае, самае ўлюбленае. І вось тут на чужыне ўсё гэта ўсплыло наверх і зазьзяла гэткім родным знаёмым хараством, што змушала доўга стаяць і любавацца ім. Старэйшыя распазнавалі самых сябе, падзіўлялі працу сваіх рук, вузоры знаёмыя, вечна жывыя: і бялюткі кужаль — льняное палатно, доўгія андаракі й той старажытны геамэтрычны арнамант на вышыўках і тканінах. Шчырая ўдзячнасьць гледачоў за паказ — за ягоную задуму й рэалізацыю вылівалася гучнымі воплескамі, калі зграбныя мадэлькі й мадэлёры на адмысловым памосьце дэманстравалі з гордасьцяй свае касьцюмы.

Напэўна хочацца даведацца тым няпрысутным на фэстывалі Беларусам, як-жа да гэтага дайшло?

А здарылася гэта дзякуючы шчасьліваму выпадку, што адна з адказных за посьпех фэстывалю асобаў, ведамая сваім і чужым беларуская маладая мастачка Ст. Тамара, разважаючы над тэмаю, зь якой найлепш выступіць перад амэрыканскім гледачом, — бо-ж вялізарная бальшыня гледачоў зь іх складалася, — чым ім заімпанаваць, як прамовіць да іх, паказаўшы нешта іншае, няштодзённае й ім няведамае, што выдзяляла-б нас Беларусаў спасярод іншых этнічных групаў Задзіночаных Штатаў, — прыгадала ў сваім уяўленьні непаўторныя вобразы нашага народнага адзеньня. Таго адзеньня, што тысячагодзьдзямі ўдасканальвалася, набірала багатай разнастайнасьці ў залежнасьці ад геаграфічных абставінаў і лякальнай прыроды, заставалася няўміручым, бо вечна жывым да сяньняшніх часоў. Жывым і ўжываным там на нашай бацькаўшчыне Беларусі й перахаваным у першабытным стане часта ў самых ізаляваных і глыбінных кутком Беларусі, дзе й сяньня ў старадаўных куфрах, няхай сабе часта як памятка далёкае мінуўшчыны, рупліва перахоўваецца старымі й маладымі, як нешта сьвятое, як найдаражэйшая рэліквія.

Тонкае трэба было мець вычуваньне запраўднае мастацкасьці й глыбокае пачуцьцё беларускага патрыятызму, каб узяцца за ўжыцьцяўленьне нялёгкага заданьня й наўсуперак сцэптыкам (пэўне-ж, былі й гэткія) рэалізаваць самааддана й наважана сваю задуму. Знайшліся ахвотныя памагатыя, заварушыліся працавітыя рукі беларускіх жанчынаў, закіпела дружная праца: шыліся, выкройваліся, прымерваліся прызначаныя для паасобных мадэляк касьцюмы.

І паказ адбыўся! Зроблены пачатак вялікае справы: прыпамін для старых, азнаямленьне для маладых і чужых з нашай нацыянальнай спадчынай, з народным мастацтвам, якое запачаткавала, разьвівала й культывавала праз вякі беларуская жанчына. Гэта быў вялікі прагрэс у нашым інфармаваньні чужынцаў пра наш народ. Ужо ня толькі геаграфічная карта, кніжкі й брашуры, ня толькі тканыя дзяружкі, ручнікі й розныя драбнейшыя сувэніры інфармавалі пра нашую бацькаўшчыну, а жывыя беларускія жанчыны й дзяўчаты выйшлі з гордасьцяй у сваіх нацыянальных старадаўных касьцюмах, а вочы іхныя радасна казалі: — Глядзіце на нас, мы Беларускі, дочкі слаўнага беларускага народу!..

Як было зазначана вышэй, паказ народнае вопраткі быў пачаткам асабліва важнае для нас жанчынаў справы. Выклікане зацікаўленьне касьцюмамі можа нарадзіць і ахвоту пазнаць дакладней разьвіцьцё беларускае вопраткі й народнае арнамэнтыкі ды ўзапраўды ўнікальны ўклад беларускае жанчыны ў арнамэнтальнае мастацтва. Трэба спадзявацца, што асабліва беларуская моладзь шмат з гэтага скарыстае, глыбей зразумее й ацэніць сваю нацыянальную спадчыну.

Але вернемся да канкрэтнае справы. Каб атрымаць адзеньне, патрэбная сыравіна, зь якое яно робіцца. Нашыя продкі, пасяліўшыся зь няпамятных часоў у лясных або бязьлесных абшарах, працярэблівалі й ачышчалі грунт пад карысныя расьліны: збожжавыя й валакністыя. Сыравінай стаў лён, скуры й воўна жывёлаў. Асабліва лён, лянок — само слова песенна звонкае — выклікала паэтычнае адчуваньне ў жанчынаў. Можа яно, адчуваньне гэтае зрадзілася ад соцен песьняў, прысьвечаных шаўкавістаму, валакністаму сінявокаму прыгажуну лянкудаўгунцу. А можа яно ад нараджэньня было ў крыві й перадавалася ад бабак і прабабак у спадчыне. Лён быў верным неадлучным спадарожнікам беларускіх жанчынаў ад старажытных часоў, зь ім была зьвязаная ўся доля-нядоля беларускае жанчыны. Можна было яму расказаць пра сваё шчасьце, выплакаць горкія сьлёзы, калі здаралася бяда-гора. Можна было падараваць любаму чысьцюткую-бялюткую кашулю, выробленую й вышытую собскімі рукамі. На вясельны стол заслаць прыгожы абрус, які, здаецца, уваброў у сябе ўвесь водыр палявых красак. І калі праводзілі ў вапошні шлях чалавека, даставалі з куфра разьвітальны падарунак — льняную сарочку.

Жанчыны гадавалі й апрацоўвалі лён зь вялікім замілаваньнем: мачылі, мялі, трапалі, ачышчалі ад кастрыцы, часалі, пралі й ткалі на кроснах палатно. Лён быў для беларускае жанчыны й горкім потам, і вялікай радасьцяй, песьняй і невясёлым роздумам.

І славілася здаўна сваім лёнамдаўгунцом Беларусь і сваймі памастацку выпрацаванымі аздобамі вопраткі. У розных мясцовасьцях Беларусі адрозьнівалася яна сваім кроем і шытвом. Жанчыны шылі рукамі мужчынскае й жаноцкае адзеньне й былі ў гэтай галіне таксама незраўнанымі майстрыхамі. Дзеля аздобы яны яшчэ плялі каронкі, расьпісвалі-размаўлёўвалі куфры, у якіх перахоўвалі гэтае сваё багацьце, працу сваіх здольных рук, упрыгожвалі свае хаты. Яны перахоўвалі й шанавалі тысячагадовыя, яшчэ дахрысьціянскія абрады: вясельлі, сватаўство, радзіны й хаўтуры, сьвяткавалі іх зь песьнямі, прыпеўкамі й прымаўкамі ды living рознымі рытуальнымі звычаямі. Добра зналіся жанчыны з добрымі й злымі істотамі, лесавікамі, дамавікамі, ведалі замовы й розныя заклінаньні, розныя лекі-зёлкі ад нядугаў і злыя заломы.

І ўва ўсёй гэтай дзейнасьці жанчынаў спрадвеку было прысутным мастацтва. Яны ўспамагалі мужчынаў у іхнай працы, бо яны лепш ведалі, якое слова трэба сказаць, каб урадзіла поле, у якім адзеньні і зь якім сваяасаблівым вузорам трэба быць у гэты час, ведалі, якія існуюць прыкметы, каб хата прастаяла даўжэй. І мужчыны паслухмяна падпарадкоўваліся невядомаму й таямнічаму рытуалу, што існаваў з найдаўнейшых часоў. Гэтак было, прыкладам, на Палесьсі ад самых старажытных часоў і там якраз арнамэнтальнае мастацтва стварылі й ствараюць амаль выключна жанчыны.



Яра Тумаш і Юрка Стагановіч у Віцебскіх касьцюмах



Юрка Кіпель і Яна Станкевіч у Магілеўскіх касьцюмах



Вера Бартуль у Гомельскім народным касьцюме



Тамара Стагановіч у Горадзенскім касьцюме й Дыяна Яцэвіч у касьцюме Берасьцейскім



Крыстына Стагановіч у Менскім народным касьцюме



Ірэна Азарка й Вітаўт Тумаш у сучасных народных касьцюмах

Натхнёныя навакольнай прыродай ды з дапамогай зусім прымітыўных прыладаў шытва, жыхары Палесься навучыліся вырабляць цудоўнае, багата аздобленае адзеньне. Калі наступала пара замужжа, дзяўчына рыхтавала ў падарунку радні жаніха багата аздобленыя кашулі, паяскі, наміткі (галаўны ўбор), чым хацела паказаць сваю працавітасьць, умельства й густ. Колькасьць падарункаў часамі даходзіла да сямідзесяці.

У народных песьнях маладому хлопцу звычайна раілі, якую дзяўчыну браць за жонку:

І ня выбырай, Ясю, каторая гладка,
Сам глядзі, у людзей пытай, ці
ўмее ткаць кросны.

Не глядзі, Ясю, ці ў пацёрах шыя,
Сам глядзі, у людзей пытай, ці
кашулю ўшые.

Гэта зыркі прыклад таго, якую вялікую важнасьць уяўляла кравецкае й вышывальнае ўмельства ды мастацкі густ у штодзённым жыцьці, якім каштоўным пасагам для жыцьця ў згодзе й каханьні яно зьяўлялася.

Але вернемся назад ды бліжэй прыгледзьмася да ўзораў — арнамэнтаў беларускага народнага адзеньня. Узоры гэтыя вельмі разнастайныя. І на ручніках, якімі прыбіралі хаты, і на вопратцы можна пабачыць самыя розныя вузоры: і лісточкі, і гронкі вінаграду, і птушкі, павы, і розныя кветкі, а паміж імі раптам, быццам іншая культура зь іншай плянэты іншага народу — высокая клясычнасьць! Геамэтрычныя фігуры ясныя, простыя, выразныя. Шмат навуковых дасьледнікаў, шмат аматараў і студэнтаў шукалі адказу на пытаньне, як вытлу-

(Працяг на 6-ай бачыне)



Ст. Тамара (Кольба)
у перапынку асьвяжаецца содай



Надзя Кудасава
ў аўтэнтычным Палескім народным уборы



Сёстры Ніна Сільвановіч і Ліза Літаровіч
выдатна памагалі ў працы



Палескія Прыгажуні
ў сябе на Бацькаўшчыне ў аўтэнтычных
Кобрынскіх касьцюмах



Стэпка Каранеўская
тчэ пояс на костачках



Люда Махнюк
пры беларускіх экспанатах





Нона Яцэвіч і Ніля Цярпіцкая
паказваюць, як можна народныя ўзоры выкарыстаць
у мадэрных блюзках

# БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ АДЗЕНЬНЕ — — ЛЮСТРА СТАРАЖЫТНАЕ КУЛЬТУРЫ

(Працяг з 5-ай бачыны)

мачыць і асэнсаваць беларускія арнамэнтальныя ўзоры й іхнае разьвіцьцё на тэрыторыі Беларусі. У сваіх дысэртацыях маладыя савецкія дасьледнікі часамі вульгарна спрошчвалі першапачатак гэтае зьявы. Вось як пра гэта пісаў ведамы малады беларускі мастацтвавед Віктар Говар у сваім артыкуле „Палеская загадка", што быў надрукаваны ў студзенскім нумары 1975 году часапісу „Маладосьць":

„Я спрачаўся са сваімі знаёмымі хлопцамі, што пішуць дысэртацыі па беларускім ткацтве. Адзін зь іх, прыхільнік розных міграцыяў і перайманьняў, выводзіў палескую арнамэнтальную культуру з 15-16 стагодзьдзяў — маўляў, прыйшла яна, нібыта, з Валыні. Але асаблівых доказаў у яго ня было. Прыйшла — і ўсё тут (вось да якіх „кур'ёзаў" дадумаўся гэны неназваны па прозьвішчы аўтар „навуковае" дысэртацыі, умясьціўшы зь лёгкае рукі паўстаньне вельмі старажытнае палескае арнамэнтальнае культуры ў параўнальна зусім блізкі нам пэрыяд 15-16 стагодзьдзяў!? — З. С.). Можа, і так, аднак у гэтых геамэтрычных палескіх арнамэнтах адчуваецца подых сівой старажытнасьці".

Вельмі цікавыя свае высновы й гіпотэзы, як іх аўтар называе, апублікаваў на гэтую тэму няўтомны шукальнік праўды ў разьвязаньні гэтае загадкі мастацтвавед Віктар Говар у толькішто цытаваным артыкуле „Палеская загадка".

Варта прыслухацца да ягоных разважаньняў, яны назьдзіў асэнсаваныя вельмі проста, цікава й павучальна. Зацытуем некаторыя зь іх:

„Палосачка ромбаў, або васьмівугольных зоркавых разэтак, або ромбаў з грабяністымі бакамі, розных іншых ромбаў. Усё арганізавана ў бясконцых па варыяцыях кампазыцыях, але надзвычай ясных і нескладаных, нягледзячы на разнастайнасьць. Звонкая, чаканная латынь! Гэткая простая зь першага пагляду й такая-ж незразумелая. Калі ўпяршыню я ўбачыў іх, то навет не паверыў, што яны мясцовыя, настолькі былі нязвыклыя, настолькі не пасавалі, былі працілеглыя тым аблегчаным кветачкам, што толькі ўпрыгожвалі ... Яны, здавалася, былі ня проста аздабленьнем, а нагадвалі нейкія знакі. Нерасшыфраваная грамата невядомага далёкага народу, праз якую людзі выказвалі свае думкі, пачуцьці. Якія думкі? Што гэта былі за людзі? Калі яны жылі? Сяньня, а таксама, паводля сьветчаньняў этнографаў, у мінулым стагодзьдзі ніхто, навет самыя старыя палескія бабулькі ня ведалі сэнсу гэтых ромбаў . . .

У параўнаньні з арнамэнтамі Віцебскай, Магілеўскай і Гомельскай вобласьцяў заходняе Палесьсе зноў пацьвердзіла сваю прыхільнасьць да клясычнай яснасьці й строгасьці. У ўсходніх і паўночных раёнах Беларусі ўжо назіралася пэўная рафінаванасьць арнамэнтальнай культуры. Людзей быццам не задавальняла клясычная строгасьць, і яны пачалі мяняць старую арнамэнтыку: рэзаць і сячы ромбы, васьмівугольныя разэткі й складваць часткі нанава ў дзіўных арабэсках. Але ня толькі й ня столькі гэта вылучае паўночнае й усходняе беларускае ткацтва й вышыўку. Мы сутыкаемся тут з загадкавымі, таксама архаічнымі фігурамі, якія нагадваюць то дзіўных марскіх жывёлін, то мудрагелістыя перапляценьні фантастычных расьлін, то нязвычайных рыб і птушак. А яшчэ — раптам плывуць адна за аднэй качачкі або стануць радочкамі — рукі ў бокі — схэматычныя фігуркі чалавечкаў... А то яшчэ распусьціць сваё сымэтрычнае гольле, абцяжаранае замоскімі пладамі, вялікае дрэва. Моцная й прыгожая стылізацыя дазваляе аднесьці гэтыя фігуры да вельмі далёкага часу. Пошукі падобнай арнамэнтыкі ў Палесьсі аказаліся марнымі. Іх тут няма!.. Ні ў вадной вёсцы, ні ў вадным з палескіх музэяў . . . Значыць паўночныя ды ўсходнія раёны займелі плямёны своеасаблівай культуры, якая адрозьнівала іх ад палескай. У паўночных раёнах Беларусі сутыкнуліся дзьве культуры: геамэтрычная, падобная да культуры заходняга Палесься, але з сваімі асаблівасьцямі й расьлінназааморфная. І відаць, калі на рубяжы новай эпохі прыйшлі ў гэтыя паўночныя мясьціны розныя вогнепаклоньніцкія культуры разам зь **Вялікай багіняй** (багіня ўрадлівасьці), тады ранейшыя выявы арнамэнтыкі прыстасаваліся да новай рэлігійнай плыні".

Скуль прыйшоў гэты культ Вялікай багіні да нас, яшчэ ня высьнена. Адныя, як архэалёг А. Гарадцоў, меркавалі, што прыйшоў ён ад скіфаў, сарматаў ці дакаў. А адкрыцьцё існаваньня культу гэтае багіні ня так і даўняе, бо ў 20-ых гадох нашага стагодзьдзя на выстаўцы народнай творчасьці якраз А. Гарадцоў зьвярнуў увагу на фігуры розных зьвяроў і людзей на паўночнарасейскіх вышыўках. У цэнтры такое арнамэнтыкі заўсёды была Вялікая багіня зь сьвітаю. Жанчына з рукамі ўзьнятымі ўгору, а рукі ейныя прарастаюць галінкамі. Зьявілася гэтая новая рэлігія Вялікай багіні й на Палесьсі дзьве тысячы гадоў таму назад.

Трэба прыпушчаць, што, як думае В. Говар, зьявілася маладая й прывабная багіня, і разам зь ёю замест веры ў невядомыя ромбы, сэнсу якіх ужо амаль ніхто ня ведаў, прыйшла жывая зьвязаная з дрэвамі, зьвярамі й людзьмі вера. І прыйшоў гэты культ да нас у грэцра-рымскай і часткава эгіпскай трактоўцы. У рымлянаў багіня ўраджаю звалася Цэрэра, а ейная дачка — Лібэра. А ў Беларусаў багіню жыцьця і ўрадлівасьці звалі Цёця, а ейную дачку Лёля. Некаторыя абрады Купальля можна вытлумачыць таксама культам гэтае багіні. Але ўсё-ж на Палесьсі мы не знаходзім выяваў культу Вялікай багіні на ўзорах адзеньня й ручнікоў. А побач трохі на поўнач і ўсход трапляюцца гэтыя ўзоры з дрэвамі жыцьця, птушкамі й чалавечкамі. Магчыма, што, як зазначае дасьледнік Ф. Зялінскі, гэты варыянт культу ня меў распрацаваных выяўленчых матываў.

Вялікія здабыткі для зразуменьня этнаграфічных раёнаў Беларусі прынесьлі працы архэалёгаў, паводля якіх межы гэтых раёнаў пачалі вызначацца пяць-шэсьць, а можа й больш тысячагодзьдзяў таму назад. Найстаражытнейшыя народы гэткім парадкам, заняўшы землі ў паледавіковым пэрыядзе, жылі на адным месцы тысячагодзьдзямі, дзякуючы чаму межы гэных этнаграфічных раёнаў трывала захоўваліся. Дык, відаць, Панямоньне, Падзьвіньне й Палесьсе былі ў некаторай ступені ізалятамі — мясьцінамі, дзе народ і ягоная культура разьвіваліся ў ізаляванасьці на працягу тысячагодзьдзяў. Праўдападобна й іншыя народы час ад часу пранікалі на гэныя тэрыторыі й на Палесьсе. Але Палесьсе заўсёды паглынала культуру прыбылых і заставалася зь веку ў век Палесьсем аднаго й таго самага народу. Вялізарныя балоты й безьліч рэк адгароджвалі вёскі гэных раёнаў ад вонкавага сьвету. Таму й набыла клясычную закончанасьць і пратрымалася бязь зьменаў навет тысячагодзьдзямі палеская арнамэнтальная геамэтрычная культура.

Цытаваны вышэй Віктар Говар прыпушчае, што пачала гэтая культура сваё зараджэньне яшчэ ў каменным веку, набыўшы ў больш позьні час — у нэаліце (4-ае — 2-ое тысячагодзьдзі да нашае эры) і ў эпоху бронзы (2-ое тысячагодзьдзе да н. э.) — сваю клясычную дасканаласьць. Бо цэраміка нэаліту й бронзы дае нам рэчы надзвычай прыгожа геамэтрычна арнамэнтаваныя. „Калі гэты арнамэнт — мяркуе В. Говар — перайшоў на тканіны, цяжка вызначыць: магчыма, і ў нэаліце, а можа, і раней, бо цэрамічныя ляпныя пасудзіны, як і тканіны, тады скрозь рабілі й арнамэнтавалі жанчыны. А сам арнамэнт, як адзначаюць дасьледнікі, меў тады магічны сэнс".

На заканчэньне нашага знаёмства з прыпушчэньнямі В. Говара зацытуем яшчэ ягоныя высновы:

„Многія дасьледнікі зыходзяцца на думцы, што гэтыя абстрактныя фігуры (геамэтрычныя) некалі абазначалі рэальныя прадметы. Чалавек надаваў гэтым фігурам асаблівую магічную сілу. Зь цягам часу замест малюнку рэальнага прадмету або ягонае часткі сталі ўжываць абстрактны сымбаль, потым яго прыгожа скампанавалі ў пэўныя кампазыцыі. Гэта рабілася на працягу многіх тысячагодзьдзяў.

Так разьвівалася разгорнутая эстэтычная культура старажытнасьці. Відаць, яна адлюстроўвала даволі глыбока й пасьлядоўна духоўнае жыцьцё людзей, іх вераваньні, асаблівасьці побыту, розных культаў і г. д. Словам, гэта была цэлая сыстэма, накшталт своеасаблівай граматы, выказанай у геамэтрычных формах. Аб яе зьмесьце мы можам рабіць толькі здагадкі. І заходняе Палесьсе найбольш пасьлядоўна трымалася гэтай геамэтрычнай сыстэмы".

Гэтулькі пра палескую загадку новага, хіба й цікавага, матарыялу.

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

## БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ АДЗЕНЬНЕ — — ЛЮСТРА СТАРАЖЫТНАЕ КУЛЬТУРЫ

**(Заканчэньне)**

Магчыма інтуіцыйна й мы тут на эміграцыі моцна вырозьніваем і любім наш геамэтрычны арнамэнт. Гэта можа таму, што пераказвае ён нам старажытную культуру нашага старажытнага народу.

***

Нядаўна стала ведамым, што й у наступным 1977 годзе ў травені адбудзецца ў тым-жа будынку Мастацкага Штатавага Цэнтру ў Нью Джэрзі падобны да сёлетняга Другі Беларускі Фэстываль. Гэта для ўсіх Беларусаў радасная вестка. Трэба думаць, што ўзноў аднэй з найбольш цікавых і карысных частак гэтага Фэстывалю будзе якраз паказ беларускага народнага адзеньня.

Паказ гэты й цяпер будзе вымагаць вялікае працы, руплівасьці, а перадусім ахвярнасьці беларускіх жанчынаў. Не зважаючы на здабытае сёлета дасьветчаньне, праца, як мне здаецца, ня будзе лягчэйшай, бо-ж тэматыка паказу пачне разрастацца й паглыбляцца, хібашто будуць некаторыя новыя праекты й зьмены, а ў сувязі з гэтым і новыя руплівыя пошукі за аўтэнтычнымі касьцюмамі, тканымі ўручную андаракамі й рознастайнымі галаўнымі ўборамі (іншымі ў дзяўчат, і іншымі ў замужніх жанчынаў), адпаведным абуткам ды іншымі дэталямі.

Спатрэбіцца яшчэ большая колькасьць працаўніц-патрыётак, гэткіх, якімі сябе выявілі сёлета наступныя асобы:

**Надзя Кудасава,** якая дапамагала рабіць закупы матарыялаў для выкананьня касьцюмаў, зьбірала экспанаты для палаткі-выстаўкі народнага мастацтва й раскладвала іх на сталох; **Ліза Літаровіч** — выкройвала ўсе касьцюмы й іх шыла, дакуплівала патрэбны матарыял, зьбірала таксама экспанаты й прыбірала імі сталы на выстаўцы; **Ніна Сільвановіч** — дапамагала шыць касьцюмы; **Марыя Стагановіч** — ахвярна вышыла блюзку для Віцебскага жаноцкага касьцюму; **Стэпа Каранеўская** з энтузіязмам дэманстравала тканьне паясоў двума спосабамі: на нагах ды на костачках; **Люда Махнюк** — памагала, дзе была патрэба, а патрэба была розная й бязконцая. Яна ачольвала мастацкі бок выстаўкі.

І гэта толькі частка працаўніц, што тут пералічаная. А было іх больш, а за імі стаялі з дапамогай і іхныя мужы, навет і дзеці. Усім ім, а таксама й мадэлькам належыцца ад беларускага грамадзтва цёплае слова падзякі. На асаблівае прызнаньне заслугоўвае **Тамара Кольба** (мастацкае імя — **Ст. Тамара**), дзякуючы якой паказ беларускага народнага адзеньня зь ейнай казачнай мроі стаяўся фактам.

Для новай беларускай талакі ў падрыхтоўцы й правядзеньні 2-га Беларускага Фэстывалю, памажы Божа!

**Зінаіда Станкевіч**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Усе клішы, зьмешчаныя ў „Жаноцкай Старонцы", выкананыя коштам Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня ў Нью Ёрку.

Фотаздымкі для гэтых клішаў зрабіў сп. А. Сільвановіч, якому за гэта шчырая падзяка.

### ПАПРАЎКА

Імя аўтаркі апавяданьня „На Захад", надрукаванага ў „Жаноцкай Старонцы" травенскага 229 нумару газэты „Беларус" за 1976 год, памылкова пададзенае „Антаніна Саковіч", заміж Аляксандра Саковіч, як мусіла быць. За гэтую прыкрую памылку Рэдакцыя моцна перапрашае паважаную Аўтарку апавяданьня.

**ЛАРЫСА ГЕНІЮШ**

# КУФАР

*АДРЫЎКІ ПАЭМЫ*

Быў час ў маім краю
сягоньня туманны,
аднесены хваляй,
час прадзены, тканы.

Працоўныя рукі
каханай матулі
усіх накармілі,
усіх апранулі.

Ад лёну зярняці
да белых палотнаў
паслала, спрала,
паткала ахвотна.

Ня проста, ня роўна,
а ўсё пераборам,
пад колер краіны
цудоўным узорам.

О сэрца матулі,
жывая крыніца,
дазволь мне сягоньня
ля куфра спыніцца.

Над працай тваёй
у паклоне сагнуцца,
ўспамінам мазольнай
рукі дакрануцца.

За тое, што нас ты
вякі апранала,
за тое, што лёгка
табе ня бывала.

***

Шырокі, высокі, акованы куфар,
малёваны вокал, з клямкаю са сталі,
ня стыдна-б такому і на панскі хутар.
Куфар незамкнёны, бо у нас ня кралі.
Загарнула бабка посьцілку удвое
і нядужай века падняла рукою.
У пахучым куфры важна ўсё ляжала,
што сама бабуля працай рук прыдбала.
Быццам водар з поля пранясло ля хаты,
так запахла лугам, чабаром і мятай.

***

Палатна сувоі белыя, льняныя,
стаяць, быццам сваі цёсаныя тыя,
спрадзеныя тонка, вытканыя туга,
выбяліў іх травень сонейкам і лугам.
Вечарамі колькі трэба было прасьці,
колькі ткаць, бяліці, пакуль ў куфар скласьці.

***

Сьцежкамі у полі ўздоўж дарожных даляў
вышытыя розна ручнікі ляжалі,
белыя, даўгія, гэтак ў час мяцелі
студзень каля хатаў чысты сьнег пасьцеле.
А на іх рукою вышыты жаночай
сінія валошкі з макамі ў вяночак,
галубок і пеўнік, ягады каліны,
нагаткі, рамонкі, гожыя юргіні.
Па канцох карункі тонкім павуціньнем
або пераплётам фрэндзлі зіхацелі.
Ў покуці павесіць, на абраз у хату,
або перакінуць цераз плечы свату
ручніка такога няўстыдно дзяўчыне,
знача з працавітых, калі поўна скрыня,
няхай паглядаюць і сваты і госьці,
колькі вышыванай любай прыгажосьці.

***

Белыя кашулі, рукавы ў заборы,
пазуха скрозь-наскразь вышыта узорам
чорным і чырвоным, ў васілёчкі — сінім,
роўненька пры боку зложаныя ў скрыні.
Некалькі настольніц з найтанчэйшай пражы,
а у кажнай колер і узор інакшы!
Вось бліскучы, ў восем нічальніц, шырокі
і другі, ў чатыры, з фрэндзлямі навокал,
той зь льняной карункай, мяккі, бы шаўковы,
той утком суровым на другой аснове...
Вось, здаецца-б, выняў, на сталы паслаў-бы
і гасьцей жаданых пасадзіў на лавы,
пірагі паставіў, частаваў-бы мёдам,
ганарыўся працай і харошым родам.

***

Паясочак сіні — недзе ад матулі,
а чырвоны, яры — мужу да кашулі,
а вось гэты — гожы, доўгі з кутасамі,
падпяразваў сьвятам бабін брат часамі.

Каля іх ірдзіцца вышыты сардачак,
сіні, аксамітны, бабчын ня іначай,
зубчыкі навокал з жоўтай атарочкай,
вузенькі, прыгожы, як ўспамін дзявочы.
Цяжкі сувой суконны дзедаві на сьвітку,
зваляны, паткапы ў суканую нітку.
Гэтакае сьвіткі дажджом не адужаць,
ня праняці ветру, не прабіці сьцюжы.
На каптан для дзеда вытканы сьвяточны,
глянеш, возьмеш ў руку—крамнага ня схочаш.
Доўгія губіцы посьцілак нясшытых,
нагавіц суконных пад кажух ці сьвіту.

Загудзелі дуды, гусьлі заігралі,
брат скакаў, а зь ветрам кутасы ляталі...
І слязу змахнула рукавом бабуся,
бо адзіны брат той з вайны не вярнуўся.

А шырокі пояс, зложаны ў дзьве столкі,
падпяразваў колісь дзед бабулін толькі.
Зіхацеў на сьвіце, шырынёй бы ў пана,
толькі што ня слуцкі, а удома тканы.

Хутчэй, чым прыняці той абычай панскі,
спадабала шляхта паясок сялянскі,
не са слуцкіх — родны паясок зрадзіўся,
а насіці пояс пан ў сялян вучыўся.

***

У старэнькай бабкі, як у маладзіцы,
каптаноў ўсялякіх, блюзаў ды спадніцаў.
Андарак вішнёвы з долам аксамітным,
андарак матулін, стужкамі расшыты,
цёмна-маліновы клетачкаю роўнай,
гарусам патканы, сіненькім па чорным.
гэткія насілі некалі дубенцы
і з другіх, суседніх каля Дубна вёсак.
На яго казалі проста:
занямонскі.

***

Хвартушок — гэта белае дзіва,
найтанчэйшы, з кудзелі лянок,
гэта гонар ўдалой маладзіцы,
кветкі — ўзорным вяночкам ля ног.

Можна ім закрыць вочы ад шчасьця,
калі шчокі калінай ірдзяць,
схаваць сьлёзы, калі ня удасца
тое шчасьце навекі ўтрымаць.

Хвартушок — чарадзейнае хусьце —
гэта стан свой задорна абвіць.
Ў бель чаромхі голаў чыюсьці
ў забыцьці на хвартух палажыць.

Хвартухоў у бабкі — розна вышываных,
белых, ясных, сініх, дарагіх і танных,
гэтыя — на будзень, тыя — пад кудзелю,
гэтыя — ў гасьціну, тыя — на нядзелю,
гэты—йсьці у цэркву, той—на дзень кірмашны,
на канве рабінай вышыты, інакшы.
А вось гэты ў кветкі, з тоненькае пражы,
то на сьмерць бабуся адлажыла важна.
Гэткая-ж кашуля і каптан навюткі,
андарак сьліўковы, хуста і абутак —
ўсё гэта заўчасу зложанае ў скрыні
і чакае толькі той сумнай гадзіны...

***

Ня хочацца куфра таго закрываць,
ўспаміны яго абступілі.
Зрабілася цёмна і пуста наўкруг,
прабіліся сьлёзы на вейкі,
і цяжка апала са змораных рук
акована куфрава века.

**1965**



# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ

## ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1977 ГОДУ

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**



*АЗАРКА МАРЫЯ й ЯНКА, ЮРКА й ІРЭНА*
*АКУЛА КАСТУСЬ і НАДЗЯ зь ДЗЕЦЬМІ*
*Інж. АЛЕКСЫ ПАВАЛ*
*АРСЕНЬНЕВА НАТАЛЬЛЯ*
*АРТОН ВЕРА й МІКАЛАЙ зь ДЗЕЦЬМІ КАЦЯЙ і АНДРЭЕМ*
*Д-р БАКУНОВІЧ ЛЮДМІЛА й УЛАДЗІМЕР зь ДЗЕЦЬМІ НАТАЛЬЛЯ, ВІКТАР, ПРАДСЛАВА, АНЯ й ЛІЗА*
*БАРТУЛЬ ВЕРА, ФРАНЬЦІШ і АНТОН*
*БЕЛАРУСКІ ВЫДАВЕЦКА-МАСТАЦКІ КЛЮБ „ПАГОНЯ"*
*БЕЛЕНІС ЛЮДВІКА й АНТОН*
*Інж. БРУЦКІ ЯНКА*
*ВЕРАБЕЙ МАРЫЯ й КАНСТАНЦІН*
*ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ*
*ВОЙТАНКА АНЯ, МІКАЛАЙ і ДЗЕЦІ*
*ГАНЬКО МАРЫЯ й МІКОЛА*
*ГРЭБЕНЬ МІКОЛА зь СЯМ'ЁЙ*
*ГУТЫРЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ і РАГНЕДА*
*ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК*
*ЖЫЗНЕЎСКІ НІКОДЭМ і АННА зь СЯМ'ЁЙ*
*ЗАМОРСКІ ВЕРА й МІКАЛАЙ зь ДЗЕЦЬМІ ТАНЯЙ і НІНАЙ*
*Д-р ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА*
*КАЖАН ЛЮБА, ВІТАЛЬ, АЎГЕН, МАРГАРЫТА й ЮЛЬЯ*
*КАЖУРА МАРЫЯ, ПЁТРА й АЛЬГЕРД*
*КАНАРЧУК ВОЛЬГА, ЯНКА й ДЗЕЦІ*
*КАРАНЕЎСКАЯ АЎГЕНЯ, СЫН СЬВЯТАСЛАЎ і ДАЧКА МАРЫЛЬКА*
*КАРАНЕЎСКІ СТЭФА, ФЛЯРЫЯН, ГЭЛЯ, МІХАСЬ, ВАНДА, ЯДЗЯ, КАРАЛІНА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы*
*КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА*
*Д-р КІПЕЛЬ ЗОРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*КУНЦЭВІЧ МІКОЛА*
*Д-р МАЛЕЦКІ ЯЗЭП і ЖОНКА*
*МАРКЕВІЧ МАРЫЯ, АНТОН і ДЗЕЦІ*
*Д-р НАБАГЕЗ УЛАДЗІМЕР зь СЯМ'ЁЙ*
*НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, ЯДЗЯ, КАРНЭЛЯ й ВІКТАР*
*НІКАН МІКОЛА й ДЗЕЦІ*
*Інж. НОРЫК КІНУСЯ, ЛЕАНІД і ДЗЕЦІ*
*Д-р РАМУК ВЕРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*СКАБЕЙ МІКОЛА*
*СОКАЛ ЭЛЬЗА й ЯНКА*
*Інж. СТАНКЕВІЧ ВЯЧАСЛАЎ зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА, СТАНІСЛАЎ і РАІСА*
*СТОМА НІНА й ВАСІЛЬ*
*СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ*
*СУБОТА КАЦЯРЫНА й АДОЛЬ*
*СУРВІЛА ІВОНКА, ЯНКА й ДЗЕЦІ ГАНЯ й ПАЎЛІНКА*
*СЬЛІЎКА ЎЛАДЗІМЕР (ВАЛОДЗЯ)*
*ТУЛЕЙКА ВОЛЬГА й МІХАСЬ*
*ШУКЕЛОЙЦЬ АНТОН*
*ЧАРНЭЦКІ АЛЯКСАНДРА й ЯНКА*
*ХАНЯЎКА МАРЫЯ, ЧАСЛАЎ і СЯМ'Я*





*Мастацкае афармленьне Ірэны Рагалевіч*

# ПАТРЫЯТЫЗМ І МАСТАЦТВА

Я дастаў цудоўны ліст ад кампазытаркі сп. Э. Зубковіч, у якім яна піша: „Прачытала Ваш артыкул пра мой зборнік ‚Край мой васільковы' („Запісы" кн. 13) і сардэчна дзякую за Ваша чулае разуменьне маіх музычных імкненьняў і за Вашу ўвагу".

Як бачым, сп. Э. Зубковіч не патрабавала, каб сп. Язэп Лешчанка быў ейным „адвакатам", які ў газэце „Беларус" (№ 234) у сваім артыкуле „Роздум пра роздум" не пашкадаваў энэргіі абліць балотам сьмяротных грахоў галаву свайго „ідэйнага ворага" Д. Верасава. У існасьці, сп. Лешчанку раззлавала крытыка аднэй песьні (дзе я навет ня згадваў прозьвішча аўтара тэксту), у чым быў угледжаны няпрыязны акт у дачыненьні да паэты М. Кавыля.

Тое, чаму адзін зь іх бароніць другога, зразумелая рэч для кажнага блізу Беларуса, але-ж трэба было „навесьці цень на ясны дзень" — каб выглядала, што галоўная справа не ў Кавылю, а ў Зубковіч!

Дзякую сп. Лешчанку за publicity (маё прозьвішча пададзенае аж 15 разоў!). Добрае лаяньне часам лепш за дрэнную пахвалу, якою аўтар артыкулу часьцяком узнагароджвае іншых кампазытараў. Не разумею, аднак, што адмоўнага ў маёй заўвазе аб колькіх песьнях Зубковіч, якія я палічыў напісанымі ў духу Чайкоўскага ці Вагнэра? Яна-ж ня сьпісвала ў іх мэлёдыяў, а толькі ўваскрасіла настрой гэтых кампазытараў. Нам ведама шмат прыкладаў, калі, робячы гэта, кампазытар усё-ж заставаўся самым сабою: Рахманінаў уваскрашаў дух Чайкоўскага, а Шастаковіч — Мусоргскага, але яны-ж ня былі зладзеямі ды ня страцілі свае індывідуальнасьці. Таксама гэта залічваецца й сп. Зубковіч ня ў грэх, а ў гонар.

Я ня думаю пра яе як пра сваю вучаніцу, і ляканічных адзнакаў „добра", „слаба" ў маім артыкуле няма.

„Верасаў, — піша Лешчанка, — бярэцца разглядаць песьні зборніка". А чаму-б і ня „брацца" таму, хто мае даволі тэарэтычнага й практычнага азнаямленьня зь беларускай музыкай?

„Калыханку" я ўяўляю сабе стcarадаўнаю, спакойнаю — быццам вада на возеры ў ціхую пагоду. Тая-ж, што ў зборніку, гэткіх рысаў ня мае. Тут няма нічога супольнага з тым, што „сучасныя дзеці хутчэй засынаюць пад какафонію ‚авангардызму' ". Першае, я меў на ўвазе нармальных дзяцей. Другое, мой крытык блытае „авангардызм" з „рок-н-рол". „Авангардызм" — нешта іншае, і сучасныя дзеткі яго ня слухаюць (як ня слухаюць і клясычнае музыкі).

Тое, што я ўважаю песьню „Я душу нявыгойна параніў" за слабую рэч, справа майго музычнага й літаратурнага густу — (ня люблю „салодзенькага"), а не майго дачыненьня да паэты М. Кавыля. Навет вялікія паэты й кампазытары пісалі часамі няўдалыя рэчы. Я. Купала, Я. Колас, М. Сяднёў побач з прыгожымі вершамі напісалі колькі слабейшых. І. Бэтховэну, і Мусоргскаму, а тым больш нейкаму Верасаву траплялася пісаць благую музыку. А вось М. Кавыль гэткі ўжо „супэрпаэта", што няма й гутаркі пра тое, каб ён стварыў пару слабых вершаў.

„Ня ў прыклад іншым (здаецца, у мой гарод! — В.) кампазытарка Э. Зубковіч не баіцца патрыятычных тэкстаў".

Ці баяўся я пісаць музыку на словы М. Кавыля „Беларусь ты мая, Беларусь", „Марш Б. К. А.", „Поле-поле", а тым больш беларускую опэру „На край сьвятла" на паэму (ня вершык!) М. Сяднёва? Або ў сп. Лешчанкі слабая памяць, або гэтыя рэчы не патрыятычныя!

„Песьні аб родным краі ўпрыгожваюць творчасьць кажнага паэты й кампазытара" (здаецца, не адзін я ўжываю „агульна вядомыя сэнтэнцыі").

Гэта так, але адзін піша з глыбокім зьместам, а другі малюе агітацыйны плякат. Хачу папярэдзіць: ні Кавыля, ні Зубковіч я да гэтай другой катэгорыі не залічаю

Відаць, тут ківаюць на мяне як на асобу, пазбаўленую любасьці да Радзімы, а вось я ўжо трапіў і ў катэгорыю „хворых ды **няпоўнавартасных"** людзей (нехта ахрысьціў іх „унтэрмэншамі"). Можа я зарабіў гэтую ўзнагароду за ўжытае слова „ілжэ-патрыятызм". Прашу выбачэньня за неасьцярожнасьць. Тут будзе лепш падыходзіць „патрыятызм на загад", або каротка, паангельску — cheap. Гэткі гатунак хоць і ня „пудзіла на гародзе", але із смуродам. Напісаць агітацыйны верш ці вельмі баёвы марш па савецкай формуле і гэтым, быццам, выказаць любасьць да Радзімы, выбачайце — не мая сьцежка. Я гляджу на патрыятызм у мастацтве больш паважна і шаную той, што мае пэўную каштоўнасьць для мастацтва. Гэта ня лёгка, не заўсёды ўдаецца ды вымагае шмат напружанае працы, але гэтага я хачу пажадаць нашым паэтам і кампазытарам.

Няможна, бязумоўна, вымагаць зашмат ад кажнага. Да гэткіх узвышшаў патрыятызму ў мастацтве, якіх дасягнулі Эдвард Грыг у музыцы ды Шота Руставэлі ў паэзіі, ніхто яшчэ не патрапіў дасягнуць, але-ж гэткія людзі нараджаюцца па адным на тысячагодзьдзе.

Мы, сучасныя беларускія паэты й музыкі, можам ахвяраваць толькі ад тых невялічкіх талентаў, якія дараваў нам Бог! Але працаваць, самаўдасканальвацца і, галоўна, вучыцца ня позна да самае сьмерці. (Зноў „агульна вядомыя сэнтэнцыі", але нагадаць не пашкодзіць).

У некаторых нашых карэспандэнтаў ёсьць гэткі закон: хвалі й толькі хвалі! Заўважыць адмоўнае? Божа барані! Няможна! Ці гэта тая шчырасьць, пра якую мы з Вамі гутарым, сп. Лешчанка?! Што да „кансэрваторыяў", дык тут недакладная інфармацыя: я „іх" пачынаў, але ня скончыў з прычыны свайго „непралетарскага" паходжаньня. У згаданых трох кампазытараў я толькі давучваўся.

Далей, пра маю зайздрасьць да тых, каго паважаюць вядучыя дзеячы. Усе тыя, каму я калісьці зайздросьціў, ужо нябожчыкі, а да сучасных, ці то беларускіх ці іншых кампазытараў, ніякае зайздрасьці я не адчуваю.

„Паважаюць Д. Верасава царкоўныя дзеячы, — піша Лешчанка, — што да грамадзкіх, дык яны маюць падставы ня вельмі паважаць, бо ..." Бо што? Верасаў паважае расейскага кампазытара Мусоргскага. Вялікі грэх? (Між іншага, Мусоргскі — Беларус з крыві й знавец беларускага фальклёру, пра што сьветчыць ягоная опэра „Барыс Гадуноў".). А хіба царкоўныя й грамадзкія дзеячы ў нас пераважна ня тыя самыя асобы? Будучыні ня трэба будзе расшыфроўваць гэтага лешчанскага „бо".

Пашану да мяне засьветчыў беларускі друк у вялікіх артыкулах пра Беларускі Фэстываль 12-га чырвеня сёлета. Толькі штосьці ня згадваецца, каб браў там удзел патрыёт, што мяне крытыкуе. А яго-ж таксама залічылі да ‚выдатных Амэрыканцаў двухсотгадовай эры". Ці не ад аднае й тае-ж грамадзкае арганізацыі мы дасталі намінацыю? Выходзіць, што павага нам аднолькавая. Чаму-ж тады страшыць гэным „бо"? .. Будзем лепш гуляць у карты без махляваньня!

„Прышываньне" антыпатрыятызму — старая песьня, яе сьпявалі ды сьпяваюць яшчэ ў ваднэй усім нам ведамай дзяржаве. Пісаны мой артыкул не праз „антыпатрыятычныя", а праз „антыпартыйныя" акуляры.

Нарэшце, „гумар" што да „скрыпічнага ключа", у якім мой „роздум" ня быў вытрыманы, мне не зразумелы, ды, думаю, што й мой судзьдзя ня зусім разумеў, што ён хоча сказаць. Хіба ня ведае ён, што ў музыцы „басовы ключ" аднолькава патрэбны, як і „скрыпічны". Кампазытары павінны ўжываць і той і другі. Вось я гэтак і рабіў!

**Дзімітры Верасаў**

## 85-Я ЎГОДКІ СПАДАРЫНІ ВЕРЫ КАЧАН

Ня гэтак даўно прыяцелі Сп-ва Качаноў у Сыднэі сабраліся, каб адзначыць 85-я ўгодкі ад дня нараджэньня нашае дарагое й паважане Спадарыні Веры Качан.

Юбілярка сваёй ветлівасьцяй, добрым сэрцам, гатоўнасьцяй кажнаму памагчы й пацешыць у горы, вялікай жыцьцярадаснасьцяй і прыемным гумарам здабыла сабе пашану й любасьць усіх, хто яе пазнаў. Прысутныя перакінулі чары шампанскага да дна, і гучна й ад шчырага сэрца загучэла:

Сто год, сто год
Жыве, жыве хай нам!

**Адданы прыяцель**

## ЮБІЛЕЙНАЯ НАВУКОВАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ БІНіМ-у

Як даведваемся, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва з нагоды 25-цігадовага юбілею, што спаўняецца ў сьнежні сёлета, ладзіць 11-12 лютага 1977 году у вадным з унівэрсытэтаў мэтраполіі Нью Ёрку Навуковую Канфэрэнцыю на тэму **„Беларускія й прысьвечаныя Беларусі дасьледваньні вонках савецкага блёку".** Канфэрэнцыя будзе адбывацца ў ангельскай мове, а ейныя працы будуць надрукаваныя ў вадмысловым юбілейным выданьні Інстытуту.

Дакладнейшыя інфармацыі пра Канфэрэнцыю будуць пададзеныя ў наступным нумары „Беларуса".

## НОВАЯ КНІГА МАЛЮНКАЎ СТ. ТАМАРЫ

Беларуская мастачка Ст. Тамара ведамая як аўтарка абстрактных абразоў, іконаў, рысункаў прыкладнога мастацтва, а таксама выдатных ілюстрацыяў дзіцячых кнігаў.

Нядаўна выйшла з друку чародная ейная кніга цудоўных ілюстрацыяў да тэксту Расэла Фрыдмана „Зьвярыныя гульні". На багата ілюстраванай супэрвокладцы кнігі пададзеныя, разам з фатаграфіямі суаўтараў, іхныя кароткія біяграфіі (з зазначэньнем пра Беларусь як месца нараджэньня Ст. Тамары). Уся кніга „Зьвярыныя гульні" выкананая на высокім літаратурным, мастацкім і паліграфічным узроўні і становіць ідэальны калядны падарунак для маладога чытача. Цана кнігі — 4,95 дал. Яе можна набыць праз кнігарню або выпісаць беспасярэдня з выдавецтва:

Holiday House
18 East 53rd Street
New York, N. Y. 10022

## ЗЬЕЗД КАМІТЭТАЎ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У АЎСТРАЛІІ

30 кастрычніка сёлета ў горадзе Мэльбурне ў Аўстраліі адбыўся зьезд прадстаўнікоў штатавых камітэтаў Паняволеных Народаў. На зьезьдзе была абмеркаваная дасюлешняя дзейнасьць штатавых камітэтаў, выбраная новая фэдэральная Аўстралійская Ўправа Арганізацыі Паняволеных Народаў і Статутовая Камісія ды быў прыняты плян працы на будучыню. Зьезд закончыўся абедам з удзелам запрошаных гасьцей — ведамых аўстралійскіх палітычных і грамадзкіх дзеячоў.

Ад Беларусаў прыймаў удзел у зьезьдзе сп. Мікола Нікан. У склад Статутовай Камісіі ад Беларусаў быў выбраны сп. Аляксандар Калодка.

## ПАМЯЦІ ДОКТАРА ЯНКІ СТАНКЕВІЧА

Беларусы Мэльбурну й ваколіцаў (Аўстралія) ўшанавалі памяць Прафэсара Доктара Янкі Станкевіча адмысловай радыяперадачай, якая была перададзеная шматмоўнай радыястанцыяй 3ZZ 26 верасьня сёлета ды паўтораная наступнага дня. Перадачу апрацавалі сп-ня Э Яцкевіч і сп. А. Калодка, вялі перадачу сп-ня Э. Яцкевіч (у беларускай мове) й сп-ня Надзя Груша (ў мове ангельскай) Адпаведна падабраная музыка ды кароткая, але вельмі зьмястоўная біяграфія сьв. пам. Д-ра Янкі Станкевіча зрабілі на слухачох вельмі вялікае ўражаньне. Біяграфію апрацаваў сп. А. Калодка, які знаў нябожчыка ад 1927 году ды, асабліва ў вапошнія гады, быў ягоным блізкім супрацоўнікам і сябрам.

Спадзяёмся, што падобная перадача пра нашага выдатнага мавазнаўцы, гісторыка, патрыёта ды змагара-нашаніўца будзе наладжаная й Беларускім Радыёвым Камітэтам у Сыднэі.

**А. К-а**

## ГАДАВЫ СХОД ТАРОНЦКАГА АДДЗЕЛУ ЗБК

У нядзелю 14-га лістапада сёлета адбыўся ў залі БРГЦ ў Тароньце гадавы Сход сяброў таронцкага адзьдзелу ЗБК. Кіраваў ім старшыня адзьдзелу сп. М. Ганько. Пасьля справаздачаў зь мінулага году, быў дакладней прадыскутаваны плян працы на будучыню. Адным з разгляданых пытаньняў было месца наступнага Зьезду Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Бальшыня сяброў выказалася, што паводля ўмовы між ЗБК й БАЗА, згодна якое абедзьве арганізацыі праводзілі зьезды, чарга цяпер прыходзіць на наступны зьезд у Канадзе. Пытаньне гэтае далей будзе абмяркоўвацца Галоўнай Управай ЗБК.

У ўправу адзьдзелу былі выбраныя сп.сп. М. Ганько, Б. Кірка й С. М.

## СХОД РАДЫ РЭСПУБЛІКАНСКІХ ГРУПАЎ АКРУГІ ЛЁС АНДЖЭЛЕС

8 верасьня сёлета ў Эстонскім Доме ў Лёс Анджэлесе адбыўся сход прадстаўнікоў рэспубліканскіх нацыянальных групаў. Адным з пунктаў парадку дня сходу было пытаньне прыняцьця для сп. Мічэла Кабэлінскага, Адміністратара Дробнага Бізнэсу із сталіцы ЗША. Гэтае прыняцьцё й было наладжанае ў сыботу 11 верасьня ў карэйскім рэстаране ў Лёс Анджэлесе. На прыняцьці Беларусаў прадстаўляў сп. Часлаў Найдзюк.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (лістапад 1976) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

### І. ЗША:

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю (у тым ліку й частка аплатаў за каляднія й навагоднія віншаваньні):**

| | |
|---|---|
| 1. А. Беленіс | $ 110.00 |
| 2. Д-р А. Занкавіч | 100.00 |
| 3. Д-р Л. Трусэвіч | 100.00 |
| 4. Ул. Мшар | 50.00 |
| 5. А. Шукелайць | 35.00 |
| 6. В. і М. М. | 25.00 |
| 7. Ф. Сак | 20.00 |
| 8. А. Пілецкі | 20.00 |
| 9. М. Чатырка | 20.00 |
| 10. Д-р Ул. Бакуновіч | 20.00 |
| 11. М. Грэбень | 15.00 |
| 12. І. Каханоўская | 15.00 |
| 13. К. Калоша | 10.00 |
| 14. Ч. Найдзюк | 10.00 |
| 15. Я. Канарчук | 10.00 |
| 16. Н. Арсеньнева | 10.00 |
| 17. інж. С. Кісель | 10.00 |
| 18. В. Кажан | 10.00 |
| 19. Айцец Архімандрыд Ул. Тарасэвіч | 10.00 |
| 20. Д-р Я. Запруднік | 10.00 |
| 21. Д. Верасаў | 10.00 |
| 22. Я. Каханоўская | 10.00 |
| 23. А. Лук'янчык | 10.00 |
| 24. Я. Раковіч | 10.00 |
| 25. Н. Жызьнеўскі | 10.00 |
| 26. інж. Я. Бруцкі | 10.00 |
| 27. Я. Чарнэцкі | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 680.00** |

**Б. Заплачана сп. Браніславу Даніловічу (улучна з часткай аплаты за каляд. і навагод. віншаваньні):**

| | |
|---|---|
| 1. С. Кірылік | $ 20.00 |
| 3. М. Каранеўскі | 20.00 |
| 3. К. Ворт | 10.00 |
| 4. А. Костэр | 10.00 |
| 5. В. Цярпіцкі | 10.00 |
| 6. В. Сьліўка | 10.00 |
| 7. П. Талмачэвец | 10.00 |
| 8. П. Кажура | 10.00 |
| 9. А. Губэрт | 10.00 |
| 10. К. Барысавец | 10.00 |
| 11. Я. Сокал | 10.00 |
| 12. С. Дубоўскі | 10.00 |
| 13. М. І. | 10.00 |
| 14. М. Войтанка | 10.00 |
| 15. А. Субота | 10.00 |
| 16. Я. Азарка | 10.00 |
| 17. С. Гутырчык | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 190.00** |

### ІІ. АЎСТРАЛІЯ:

**1. Прыслана сп. Міколам Ніканам ад Суродзічаў Мэльбурну й аколіцаў (у аўстр. валюце):**

**А. Ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

| | |
|---|---|
| 1. А. Дабрыдзень | $ 60.00 |
| 2. А. Груша | 50.00 |
| 3. М. Нікан | 30.00 |
| 4. М. Скабей | 30.00 |
| 5. П. Гуз | 30 00 |
| 6. М. Кулага | 30.00 |
| 7. Д. Груша | 20.00 |
| 8. П. Мікуліч | 20.00 |
| 9. А. Калодка | 20.00 |
| 10. Т. Корбут | 10.00 |
| 11. М. Субач | 5.00 |
| 12. В. Каролюк | 5.00 |
| **Разам:** | **$ 310.00** |

**Б. Аплаты за каляд. і навагоднія віншаваньні:**

| | |
|---|---|
| 1. А. Дабрыдзень | $ 25.00 |
| 2. М. Скабей | 10.00 |
| 3. М. Нікан | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 45.00** |

**В. У лік падпіскі да канца 1976 году:** .. .......... $ 55.00

Усяго разам аўстр. $ 410.00, што ў пераводзе на валюту ЗША дало разам .. .. ....... **ЗША $ 502.29**

**2. Прыслана сп-няй Аўгеняй Каранеўскай ад Суродзічаў Сыднэю й аколіцаў (у валюце ЗША):**

**А. Ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Я. Малецкі | $ 100.00 |
| 2. К. Сіткоўскі | 50.00 |
| 3. А. Каранеўская | 20.00 |
| 4. М. Лужынскі | 20.00 |
| 5. А. Качан | 20.00 |
| 6. інж. С. Нарушэвіч | 20.00 |
| 7. М. Мілеўскі | 20.00 |
| 8. В. Ліпскі | 10.00 |
| 9. М. Антух | 10.00 |
| 10. А. Волк-Левановіч | 10.00 |
| 11. С. Уласэвіч | 10.00 |
| 12. М. Бакуновіч | 10.00 |
| 13. А. Васіленя | 10.00 |
| 14. А. Смаль | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 320.00** |

**Б. Аплата за каляднія й навагоднія віншаваньні:**
1. А. Каранеўская .......... **$ 10.00**

**В. За прададзеныя 2 экз. кнігі 3-ці том „Выбраных твораў" М. Гарэцкага** .. .. .......... **$ 10.00**

**Г. Падпіска на газэту:**

1. М. Антух, М. Бабака й сп-ня Л. Грыц па адлічэньні коштаў мясцовае паштовае перасылкі .... **$ 30.07**

**Усяго разам з Сыднею ЗША $443.07**

### ІІІ. АНГЕЛЬШЧЫНА:

| | |
|---|---|
| 1. Беларускі Клюб у Манчэстары | $ 180.00 |
| 2. БАПЦ у Ангельшчыне за каляд. віншаваньне | 25.00 |
| **Разам:** | **$ 205.00** |

### IV. КАНАДА:

| | |
|---|---|
| 1. І. і Я. Сурвілы | $ 100.00 |
| 2. Д-р Р. і В. Жук-Грышкевіч | 75.00 |
| 3. К. Акула | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 185.00** |

### V. ФРАНЦЫЯ:

1. Ул. Шыманец .......... **$ 50.00**
2. М. Наўмовіч — 200 франц. франк.
3. Л. Шыманец — 200 франц. франк.

### VI. ШВАЙЦАРЫЯ:

1. Лёчэр .......... **$ 10.00**

### VII. ЗВАРОТ КОШТАЎ ЗА КЛІШЫ

| | |
|---|---|
| 1. Цераз сп. К. Калошу з Кліўленду | $ 95.00 |
| 2. Камітэт удзелу Беларусаў у 41-ым Эўхарыстычным Кангрэсе ў Філядэльфіі | $ 45.00 |
| 3. М. Яськевіч з Ангельшчыны праз Беларускі Клюб у Манчэстары | 25.00 |
| **Разам:** | **$ 165.00** |

**Усяго разам: $ 2,430.36 і 400 францускіх франкаў.**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

## ПАДПІСКА Ў 1977 ГОДЗЕ

**Не зважаючы на шыбкі рост дарагоўлі ўва ўсіх краёх расьсяленьня беларускае эміграцыі, падпіска на газэту „Беларус" і ў 1977 годзе застаецца тая самая, што й сёлета — $ 10.00.**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"**